№ 7 (23) 1997

# Каталіцкія навіны

Інфармацыйны бюлетэнь

Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла






## 46-ы МІЖНАРОДНЫ ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС

ВРОЦЛАЎ

25.05.1997 - 1.06.1997г.



***З 25 мая да 1 чэрвеня 1997 года ў Вроцлаве праходзіў 46-ы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс. У ім прынялі ўдзел каля 20000 чалавек з 86-ці краінаў свету. Пасяджэнні адбываліся пад дэвізам «Эўхарыстыя і свабода».***

## З гісторыі Эўхарыстычных Кангрэсаў

У канцы XIX стагоддзя ў злаіцызаванай і варожай Касцёлу Францыі Эміліе Таміс'ер арганізуе першую эўхарыстычную пілігрымку, каб узмацніць дух і паглыбіць веру французскіх каталікаў. Гэтая задума была прызнаная Папам Львом XIII. Ён не толькі падтрымаў ініцыятыву Эміліе, але і даручыў арганізацыю эўхарыстычных кангрэсаў, якія маюць тую ж мэту, што і пілігрымкі, – быць бліжэй да Эўхарыстыі, а значыць, бліжэй да Бога. Першы Кангрэс адбыўся ў 1881г. у Лілле (Францыя).

З цягам часу кангрэсы набылі папулярнасць і размах, асабліва таму, што традыцыйнай стала прысутнасць на іх галавы Каталіцкага Касцёла. Падчас кангрэсу вернікі не толькі ўшаноўваюць Хрыста ў Найсвяцейшым Сакрамэнце, але таксама імкнуцца распачаць навуковыя разважанні над значэннем Святое Імшы ў жыцці каталікаў.

Да гэтага часу Польшча не мела магчымасці быць арганізатарам Эўхарыстычнага Кангрэсу, і таму, калі падчас Кангрэсу ў Севільі (1993г.) Ян Павел II у якасці месца наступнага спаткання назваў горад над Одрам, врацлавяне вельмі ўсцешыліся. Вроцлаў быў выбраны не выпадкова. Святы Айцец хацеў, каб гэты Кангрэс быў экуменічны і каб ён адбыўся ў горадзе, які ляжыць у цэнтры Еўропы і адначасова на мяжы двух яшчэ нядаўна розных светаў. Па абодвух гэтых варунках Вроцлаў падходзіць як найлепей. Вроцлаў – горад экуменічны, бо тут існуюць побач у згодзе розныя веравызнанні, ён выпрабаваны нялёгкай і балючай гісторыяй сваіх жыхароў.

## Папярэднія Эўхарыстычныя Кангрэсы

| Год | Месца |
|---|---|
| 1881 | Лілль (Францыя) |
| 1882 | Авіньён (Францыя) |
| 1883 | Ліэгэ (Бельгія) |
| 1885 | Фрыбург (Швейцарыя) |
| 1886 | Тулуза (Францыя) |
| 1888 | Парыж (Францыя) |
| 1890 | Антверпен (Бельгія) |
| 1893 | Іерусалім |
| 1894 | Рэймс (Францыя) |
| 1897 | Парэ-ле-Моньял (Францыя) |
| 1898 | Брусэль (Бельгія) |
| 1899 | Люрд (Францыя) |
| 1901 | Ангерс (Францыя) |
| 1902 | Намур (Бельгія) |
| 1904 | Ангулем (Францыя) |
| 1905 | Рым (Італія) |
| 1906 | Турнай (Бельгія) |
| 1907 | Магунцыя (Германія) |
| 1908 | Лондан (Англія) |
| 1909 | Кёльн (Германія) |
| 1910 | Манрэаль (Канада) |
| 1911 | Мадрыд (Іспанія) |
| 1912 | Вена (Аўстрыя) |
| 1913 | Мальта |
| 1914 | Люрд (Францыя) |
| 1922 | Рым (Італія) |
| 1924 | Амстэрдам (Галандыя) |
| 1926 | Чыкага (ЗША) |
| 1928 | Сіднэй (Аўстралія) |
| 1930 | Картагіна (Тунэзія) |
| 1932 | Дублін (Ірландыя) |
| 1934 | Буэнас Айрас (Аргентына) |
| 1937 | Маніла (Філіпіны) |
| 1938 | Будапешт (Венгрыя) |
| 1951 | Барсэлона (Іспанія) |
| 1955 | Рыо дэ Жанэйра (Бразілія) |
| 1960 | Мюнхен (Германія) |
| 1964 | Бамбей (Індыя) |
| 1968 | Багота (Калумбія) |
| 1973 | Мельбурн (Аўстралія) |
| 1976 | Філадэльфія (ЗША) |
| 1981 | Люрд (Францыя) |
| 1985 | Найробі (Кенія) |
| 1989 | Сеул (Паўдн.Карэя) |
| 1993 | Севілья (Іспанія) |

## Кардынал Арынцэ: Эўхарыстыя дае сілы для дасягнення свабоды

Кардынал Фрэнсіс Арынцэ адзначыў, што Эўхарыстыя дае сілы, каб дасягнуць свабоды, здабытай для нас Хрыстом. 26 мая, у другі дзень Кангрэсу, Старшыня Папскай Рады па пытаннях Міжрэлігійнага дыялогу выступіў з дакладам.

Кардынал падкрэсліў, што ў імя свабоды ніхто не павінен парушаць Божыя законы.

«Бог прадбачыў усе сітуацыі, у якіх можа апынуцца чалавек, і таму даў яму нязменныя законы, законы Божыя», – падкрэсліў дакладчык. На жаль, людзі часта выступаюць супраць гэтых законаў, між іншым, у імя свабоды, якую разумеюць скажона. Магчымасці такой свабоды вядуць да зняволення чалавека. Сцвярджэнне, быццам сапраўдная свабода заключаецца ў тым, каб рабіць усё, што падабаецца, – не што іншае, як ашуканства. Бо кожная маці забароніць свайму дзіцяці пакласці руку ў агонь, а згодна з прыведзеным меркаваннем гэта азначае абмежаванне свабоды дзіцяці, што ўжо зусім абсурдна. У дадзенай перспектыве дасягненне свабоды спалучаецца з адказнасцю і намаганнем. Чалавек свабодны тады, калі паступае згодна з аб'ектыўнай праўдай, крыніцай якой з'яўляецца Бог. «Той, хто дзейнічае, шануючы Стваральніка, з'яўляецца свабодным чалавекам», – канстатаваў кардынал Арынцэ і дадаў, што «толькі свабода, якая падпарадкоўваецца праўдзе, вядзе чалавека да яго сапраўднага дабра. Свабода – гэта дзейнасць у праўдзе і стварэнне праўды».

Дакладчык падкрэсліў, што чалавек настолькі дасягае свабоды, наколькі паддаецца ласцы Божай. Грэшнік – чалавек паднявольны, свабоднымі з'яўляюцца толькі тыя, хто выконвае Божую волю.

## Кардынал Свёнтэк: хрышчэнне – шлях да свабоды ў часы рэжыму

«Хрышчэнне было шляхам да свабоды падчас камуністычнага рэжыму ў СССР», – сказаў кардынал Казімір Свёнтэк, арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі. Былы вязень савецкіх лагераў правёў для свецкіх і духоўных вернікаў, якія сабраліся ў Вроцлаўскай катэдры св.Яна, канферэнцыю, прысвечаную Сакрамэнту хрысціянскага пасвячэння. Гэтая сустрэча закончылася адарацыяй Найсвяцейшага Сакрамэнту, якая стала заключным акцэнтам другога дня 46-га Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу.

Кардынал Свёнтэк падкрэсліў, што нават у часы найбольшага тэрору людзі любой цаной хацелі ахрысціць сваіх дзяцей. Бацькі, нягледзячы на пагражаючыя ім пераследаванні, а таксама пакаранне высылкаю ў лагеры, везлі сваіх дзяцей да ксяндза нават за сотні кіламетраў. Там, дзе не было святара, распаўсюдзілася практыка хрышчэння вадой, г.зн. выкананне Сакрамэнту падрыхтаванымі да гэтага свецкімі вернікамі. Захоўвалася вялікая канспірацыя. «Быў гэта немы крык свабоды Дзяцей Божых. Крык аб свабодзе для Касцёла і веравызнання», – адзначыў Мінска-Магілёўскі мітрапаліт. Хрышчэнне было шляхам да свабоды падчас нялюдскага сталінізму, хоць шмат хрысціянаў заплаціла за гэта зняволеннем.

Кардынал падкрэсліў, што свабода не азначае адсутнасці якіх-небудзь абмежаванняў. Хрысціянін верыць, што шлях да свабоды пралягае праз адданне ў няволю Богу. Гэта ў ёй Бог ахвяруе сябе чалавеку. Праз хрышчэнне мы пакліканы да свабоды.

На думку кардынала Свёнтка, самай небяспечнай спакусай сучаснасці з'яўляецца прага жыцця ў поўнай аўтаноміі, без якіх-небудзь аўтарытэтаў, у тым ліку і Бога. «Людзі забыліся, што такая аўтаномія вядзе да заняпаду і зняволення», – заўважыў ён. «Спосабы спакушэння, – адзначыў кардынал, – сёння іншыя, а вынікі тыя ж. Страшна, што сёння гэта адбываецца ў імя свабоды і дэмакратыі. Сёння, праз дзве тысячы гадоў пасля нараджэння Хрыста, свет надалей патрабуе вызвалення ад грахоў».

## Бежмаванне падчас Кангрэсу

27 мая на 46-ым Міжнародным Эўхарыстычным Кангрэсе каля 5 тысяч дзяўчат і юнакоў прынялі сакрамэнт бежмавання з рук 12 арцыбіскупаў і біскупаў з розных краінаў свету падчас урачыстай Святой Імшы, якую вёў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі кардынал Казімір Свёнтэк .

У пропаведзі кардынал Гульбіновіч напомніў пра абяцанне Хрыста вучням спаслаць Духа Суцяшальніка, які будзе дапамагаць ім у місійнай працы. Так і здзейснілася ў дзень Пяцідзесятніцы. «Гэтага Духа вы атрымаеце цяпер, і будзе ісці Ён за вамі крок у крок і не пакіне вас да канца», – гаварыў кардынал. «Пры бежмаванні Касцёл не ўскладае ніякіх іншых абавязкаў, толькі аднаго жадае, каб вы выконвалі ўсё тое, пра што ўжо ведаеце. /.../ Будзьце прадбачлівымі і памятайце, што Святы Дух пазычыць вусны вашай маці альбо вашага бацькі, каб наставіць на шлях правільны тых, хто заблудзіўся», – адзначыў кардынал Гульбіновіч.

## Кардынал Мейснэр: нявер'е – опіум для людзей

Нявер'е – опіум для людзей, – сказаў кёльнскі мітрапаліт кардынал Ёахім Мейснэр 27 мая на 46-ым Міжнародным Эўхарыстычным Кангрэсе ў Вроцлаве.

На думку арцыбіскупа Кёльна, «нявер'е – опіум для людзей, які дапамагае лёгка паддавацца розным ілжэпрарокам». Без сувязі з Богам, – сцвярджаў кардынал, – чалавек робіцца чужым самому сабе і становіцца ахвярай знешняй пакорлівасці. Калі чалавек дазволіў, каб вера ў Бога дэградавала і лічылася опіумам для людзей, то сам пачаў ужываць наркотыкі і алкаголь.

Звяртаючыся да лозунга французскай рэвалюцыі 1789г. «свабода, роўнасць, брацтва», мітрапаліт Кёльна сказаў, што ён не мог быць выніковым, бо з яго свядома была выключана вера ў Хрыста. Усе каштоўнасці, якія паходзяць з Бібліі, але не стаяць на якары ў Бога, перараджаюцца ў свае супрацьлегласці. «Гулагі і турмы на абшары камуністычнай імперыі, – гаварыў кардынал Мейснэр, – гэта тыя знакі на шляху да канчатковага шчасця людзей, якія не толькі перасцярагаюць, але таксама і папярэджваюць аб спажывецкіх настроях у грамадствах Заходняй Еўропы і Амерыкі, дзе робіцца капітал, выкарыстоўваючы схільнасць чалавека да спажывецтва, уплывовасці і свае волі ў грамадстве; чалавек, які пад уздзеяннем рэкламы і прапаганды становіцца марыянеткай, страчвае сваю ўнутраную свабоду. Рэклама пацягвае чалавека-марыянетку за шнуркі пажадлівасці і шкодных звычак, штурхае яго на шлях спажыўца. А пра чалавека-спажыўца нельга сказаць, што ён жыве, ён з'яўляецца толькі ўтрыманцам жыцця».

На думку нямецкага кардынала, калі Цэнтральная і Усходняя Еўропа вызваліліся ад камунізму, мара чалавека аб свабодзе засталася па-ранейшаму аддаленай і нездзяйсняльнай марай. «Свабода чалавека, – падкрэсліў Мейснэр, – мае канчатковую гарантыю ў Богу. Нельга яе атрымаць толькі на шляху грамадска-палітычных пераменаў і рэвалюцый, яе карані сягаюць значна глыбей». Гэта ў Эўхарыстыі, а раней у хрышчэнні «чалавек вызваляецца ад самога сябе, тут становіцца свабодным для Бога і для людзей. І гэта канчаткова з'яўляецца свабодай чалавека ў поўным значэнні гэтага слова», – падкрэсліў нямецкі іерарх.

## Новую евангелізацыю кожны павінен пачаць з сябе

Кёльнскі мітрапаліт кардынал Ёахім Мейснэр параіў біскупам, каб яны замест нараканняў і спачуванняў сучаснаму свету, прапаведавалі Божую любоў да чалавека і захаплялі сучаснікаў Богам. На прэс-канферэнцыі, арганізаванай з нагоды 46-га Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу, нямецкі госць падкрэсліў, што новую евангелізацыю неабходна пачынаць з саміх сябе.

Новай евангелізацыі Еўропы немагчыма дасягнуць шляхам стварэння новых праграм, ці новай тэалогіі. Яе неабходна пачынаць з унутранай перабудовы саміх сябе. Метаноя павінна быць заўважальнай у маім вобліку, – падкрэсліў кардынал. Новая евангелізацыя ўдасца толькі тады, калі Касцёл будзе ажыццяўляць праграму першай супольнасці з Іерусаліма. Як напісана ў «Дзеяннях Апосталаў», першыя хрысціяне не адступалі ад навукі Касцёла, збіраліся для ўдзелу ў Эўхарыстыі і малітве, жылі па законе любові. «Калі б я быў лекарам, то на рэцэпце, які патрэбен Еўропе, напісаў бы рэкамендацыі іерусалімскай супольнасці. Праз пяць гадоў наш кантынент быў бы здаровым», – заявіў госць з Германіі.

## Кардынал Вылк: Еўропа патрабуе хрысціянскага пацвярджэння свабоды

Кардынал Міласлаў Вылк, арцыбіскуп Прагі і прымас Чэхіі, адзначыў, што ліберальная канцэпцыя свабоды вычарпала сябе, сучасная Еўропа патрабуе хрысціянскага доказу свабоды. На жаль, самі хрысціяне ў значнай ступені страцілі здольнасць даваць сведчанне, таму павінны браць прыклад з Езуса ў Яго кенозе – ахвяраванні і службе Богу. 27 мая ў Вроцлаўскай катэдры кардынал правёў аскетычную канферэнцыю. Прымас Чэхіі заўважыў, што пасля французскай рэвалюцыі ўзнік свет без Бога, дзе асноўным законам стала свабода, якую разумелі так: раблю тое, што выгадна. Такое разуменне свабоды лягло ў аснову сучаснай культуры постмадэрнізму і лібералізму. Сучасны чалавек зрабіў сябе панам свету, узяў свой лёс у свае рукі і замкнуўся сам ў сабе. Свабода, выключна чалавечая, без Бога, як паказаў вопыт гэтага стагоддзя, не прынесла шчасця, не паддалася рэалізацыі. А наадварот, чалавек страціў ласку дзяцей Божых, страціў усё і стаіць зноў на пачатку шляху. Замест вызвалення, – гаварыў кардынал Вылк, – такое разуменне свабоды выклікала не вядомыя дасюль формы зняволення. XX стагоддзе прынясло смерць 175 млн. людзей і жахлівыя таталітарныя ідэалогіі. Сёння секулярызаваны свет без Бога, разрэкламаваны французскай рэвалюцыяй, апынуўся ў тупіку. Еўрапейскі Саюз у пошуках самаакрэсленасці звярнуўся да каталіцкага Касцёла, каб надаць Еўропе, якая аб'ядноўваецца, больш глыбокае духоўнае вымярэнне. Старшыня Саюза Жак Сантэр выступае з дакладамі аб пошуках Еўропай душы. «Усе гэтыя спробы – не што іншае, як пошукі Бога, пошукі сапраўднай, а не ілюзорнай свабоды; той, дзеля якой

нас вызваліў Хрыстус», – падкрэсліў дакладчык.

На думку прымаса Чэхіі, такая сітуацыя дае шырокі прастор католікам для сведчання сапраўднай свабоды. Еўропа і ўвесь свет чакаюць гэтага сведчання. На жаль, крызіс секулярызму не абмінуў таксама і хрысціянскую культуру, у сувязі з чым мы ў вялікай ступені страцілі здольнасць даваць такое сведчанне. Як мяркуе дакладчык, у аснове гэтага крызісу ляжыць залішняе акцэнтаванне прысутнасці Хрыста ў Эўхарысты́і і адначасова забываецца, што Ён прысутнічае ва ўсіх аспектах нашага жыцця. «Мы неяк абмежавалі ўздзеянне самога Бога, мы забылі, што Бог існуе паміж нас, што можна да Яго дакрануцца. У выніку адбыўся падзел паміж абстрактнай праўдай і жыццём. Як жа часта пропаведзі святароў складаюцца са слоў, не пацверджаных сведчаннем жыцця ў той час, як хрысціянства з'яўляецца рэлігіяй сведчання. Чалавек ахвотней верыць сведкам, чым тэорыі. Першыя апосталы былі сведкамі Хрыста, які прыйшоў на зямлю, каб быць сведкам свайго Айца. Таму ўсе нашы хрысціянскія абрады павінны быць вяртаннем да еднасці слова і жыцця», – пераконваў кардынал Вылк. Абмежаванне ўздзеяння Бога па-за святыняй робіць немагчымым які-небудзь вопыт Бога для тых, хто не верыць. Як чалавеку, які шукае сапраўдную свабоду, знайсці яе, калі хрысціяне не сведчаць пра яе сваёй экзістэнцыяй?" – пытаўся прымас Чэхіі.

Адначасова ён звярнуў увагу на тое, што гістарычны момант вельмі карысны для таго, каб даваць сведчанне праўды. «Сённяшні свет, – зазначыў ён, – нагадвае блуднага сына, які сышоў з правільнага шляху і пасе авечак, але ў яго сэрцы расце жаданне вярнуцца ў дом Айца, да еднасці з Богам. Як гэта зрабіць? Мы павінны наследаваць пазіцыю Айца і прыняць навернутага. У той жа час нельга нам наследаваць пазіцыю старэйшага брата і адрынуць блуднага сына. Няма іншага шляху ў адносінах чалавека, які адвярнуўся ад Бога, але хоча вярнуцца да Яго, акрамя шляху выпрабавання і сведчання».

Як сучасны хрысціянін павінен даваць сведчанне свабоды ў Хрысце? – пытаўся кардынал Вылк. І ўказваў, што неабходна ўгледзецца ў пазіцыю Хрыста, які жыў Айцом і для Айца. Яго прыніжэнне, жыццё для Айца і для нас – гэта аб'яўленне любові Бога Айца. Езус, свабодны ад сябе самога, прымае волю Айца. Менавіта кеноза, ахвяра і жыццё Езуса для іншых з'яўляецца для нас сведчаннем таго, як мы павінны яго аддаваць. Гэтая пазіцыя ахвяравання Езуса кожны дзень даецца нам у Эўхарыстыі. Але, на жаль, як часта мы бываем сляпыя і не бачым яе. Эўхарыстыя – гэта праяўленне кенозы Хрыста, але гэтая кеноза павінна здзяйсняцца не толькі падчас сакрамэнту, але таксама на працягу ўсяго нашага быцця, у кожную хвіліну нашага жыцця. «Як індывідуалісты са спажывецкім менталітэтам, мы не разумеем кенозы Эўхарыстыі. Езус не сказаў *«адаруйце Мяне»*, але *«чыніце гэта»*. Мы прымаем Камунію, але не ўстанаўліваем праз гэта еднасці, супольнасці з Езусам, не наступае вызвалення як выніку адмаўлення самога сябе. Чалавек стварае для сябе ўласны вобраз Бога, пазбаўлены звышнатуральнага элементу. Гаворка пра хлеб жыцця не датычыць непасрэдна Эўхарыстыі, а хутчэй сувязі з Богам. Езус у Эўхарыстыі патрабуе ад нас заняць пазіцыю кенозы, службы аж да ахвяравання жыццём», – навучаў прымас Чэхіі.

Ён падкрэсліў, што толькі ў кенозе адкрываецца шлях да сапраўднай еднасці з Богам і паміж намі, шлях сапраўднага вызвалення. Толькі такім чынам мы зможам знайсці шлях да тых, хто адчувае патрэбу. Але, каб гэтага дасягнуць, неабходна адкінуць сведчанне выключна чалавечае і абгрунтаваць яго на еднасці з Хрыстом, якая рэалізуецца ў штодзённым жыцці, у службе і пакоры.

## **Арцыбіскуп Грахалеўскі:** Сапраўдная няволя нараджаецца ўнутры чалавека

Святая Імша пад кіраўніцтвам прымаса Венгрыі кардынала Ляшлё Паская распачала чацвёрты дзень Эўхарыстычнага Кангрэсу. У Эўхарыстыі, якая адбывалася 28 мая ў перапоўненай Народнай зале, прымалі ўдзел кардыналы, арцыбіскупы і біскупы, якія прыехалі ў сталіцу Дольнага Слёнска з усяго свету. Арцыбіскуп Зянон Грахалеўскі, сакратар Апостальскай Сігнатуры з Ватыкана, падкрэсліў у гаміліі, што грэх знявольвае чалавека. (...) Сапраўдная няволя нараджаецца ўнутры чалавека. «Грэх робіць нас сапраўднымі нявольнікамі», – падкрэсліў арцыбіскуп. Эўхарыстыя вызваляе нас ад штодзённых грахоў і ахоўвае нас ад іх – вызваляе ад «неўпарадкаваных прыхільнасцяў да істотаў», – працягваў прапаведнік. Каб гэта магло адбывацца, мы павінны прыступаць да Эўхарыстыі з любоўю, верай, пакораю і сапраўднай воляй перамяніцца. Павінна быць таксама гатоўнасць да ўдзелу ў крыжы Хрыста. Вядома, гаворка ідзе не пра тое, каб ствараць сабе ірацыянальныя цярпенні і раскаянне, але пра тое, каб мы маглі быць гатовымі да любога ахвяравання і перамаглі грахі. «Калі табе не хочацца маліцца, тады наступае момант узяць на сябе крыж; калі абавязкі здаюцца табе занадта цяжкімі, калі прагнеш помсты, тады наступае момант паднімаць крыж», – гаварыў арцыбіскуп Грахалеўскі.

## **Арцыбіскуп Кавальчык:** *зямны шар, аб'яднайся вакол Эўхарыстыі Хрыстовай!*

Арцыбіскуп Юзаф Кавальчык, апостальскі нунцый у Польшчы, заклікаў усіх людзей зямнога шара да аб'яднання ў Эўхарыстыі Хрыста. У пропаведзі падчас Св.Імшы, справаванай на 46-ым Міжнародным Эўхарыстычным Кангрэсе, ва ўрачыстасць Божага Цела, 29 мая ў Народнай зале ў Вроцлаве ён палемізаваў са сцвярджэннем, што Касцёл небяспечны для свабоды. Арцыбіскуп Кавальчык, разважаючы пра тое, чаму такой вялікай з'яўляецца цана свабоды, заўважыў таксама, што немагчыма адказаць на гэтае пытанне без дапамогі вучэння Хрыста, вучэння Евангелля і Яго ахвяры крыжа. Як гаворыць св.Павел: «Для свабоды вызваліў нас Хрыстус» (пар.Гал 5, 1), а зрабіў гэта цераз збаўленчую ахвяру самога сябе, складзеную на крыжы з-за бескарыснай любові да чалавека. (...)

У сувязі з урачыстасцямі Божага Цела ён напомніў, што Хлеб Эўхарыстычны з'яўляецца знакам ахвяры Хрыста дзеля нашай унутранай свабоды. Менавіта ў Эўхарыстыі мы атрымліваем звышнатуральную магчымасць вызвалення ад знешняй нянволі і грахоў. Эўхарыстыя дапамагае таксама рэалізацыі запавету любові, канкрэтнага прысвячэння сябе іншым людзям і супольнасці. «Свабодны той, хто аддае сябе ў распараджэнне іншых і праз гэта становіцца вольным ад самога сябе, ад свайго празмернага эгаізму. Эўхарыстыя робіць здольным на такі ўчынак, здольным быць мужным і гераічным», – сказаў нунцый.

## **Кардынал Шока:** *зварот да хрысціянаў аб экуменічным дыялогу*

Святая Імша з удзелам больш за 8 тысяч вернікаў, якую правёў аўстралійскі кардынал Эдвардо Бедэ Кленсы, распачала 30 мая чарговы, шосты дзень пасяджэнняў Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу ў Вроцлаве. У Эўхарыстыі разам з кардыналамі, арцыбіскупамі, біскупамі і святарамі з усяго свету, удзельнічалі таксама і паломнікі, якія прыбылі ў сталіцу Дольнага Слёнска на сустрэчу з Янам Паўлам II.

У сваёй пропаведзі амерыканскі кардынал Эдмунд Казімір Шока з Ватыкана звярнуўся да хрысціянаў з просьбай працягваць экуменічны дыялог. Ён заклікаў католікаў, перш за ўсё, да малітвы ў інтэнцыі паяднання, каб усе хрысціяне ў адной веры маглі сесці за стол, які прыгатаваў Пан.

Кардынал напомніў, што, нягледзячы на ґрэх нашых першых бацькоў, якія адвярнуліся ад Бога, Ён не пакінуў нас у путах граху. Ён паслаў Сына свайго, які навучыў нас нанава, што азначае любоў. Езус сваімі мукамі на крыжы парваў кайданы граху. Ён Той, хто прыняў стан нявольніка, вызваліў нас ад граху і даў нам свабоду дзяцей Божых.

Кардынал Шока перасцерагаў, што мы надалей падвяргаемся небяспецы граху. Аднак мы былі адкупленыя, і таму можам пачынаць новае жыццё ў ласцы. Хоць мы атрымалі сродкі, дзякуючы якім нашы розум і воля былі асвечаны, але Бог не змушае нас да любові. Бог зрабіў нас свабоднымі, і ў гэтай свабодзе мы можам зграшыць. «Выбіраючы грэх, – гаварыў кардынал, – чалавек трапляе ў зняволенне». Праз грэх мы адхіляем свабоду выбару найвялікшага дабра – Бога.

Дапамагае нам Эўхарыстыя. У ёй Езус корміць нас сваёй Крывёй і сваім Целам. Дзякуючы Яму, мы можам выбіраць у свабодзе Бога, – сцвярджаў кардынал Эдмунд Казімір Шока.

## **Кардынал Руіні:** *Еўропе неабходна адзінства хрысціянаў*

Кардынал Камілло Руіні выказаў перакананне, што паяднанне хрысціянаў умацуе супольнасць народаў Еўропы. У выступленні, якое завяршыла шосты дзень Кангрэсу, італьянскі кардынал адзначыў: "Калі дзеянні на карысць еднасці хрысціянаў прынясуць плён, то можна быць упэўненымі, што еўрапейская супольнасць будзе абапірацца не толькі на эканоміку, але і на рэлігію і культуру".

Кардынал Руіні напомніў, што адыходзячае тысячагоддзе было тысячагоддзем сур'ёзных разыходжанняў паміж хрысціянамі. Затое новае тысячагоддзе павінна стаць перыядам паяднання.

Шлях да еднасці, які пройдзе кожная Царква, павінен фармавацца ў свабодзе і праўдзе. Таму кожная з супольнасцяў павінна адкрыць сваё сэрца праўдзе Хрыста. «Папросім Пана, каб мы першымі адкрыліся для яе. Папросім таксама, каб кожная Царква адкрылася для праўды Хрыста», – заахвочваў вернікаў італьянскі кардынал. Імкненне да адзінства павінна адбывацца ў свабодзе. Мы хочам паважаць свабоду і ісці да адзінства не праз насілле, як гэта не раз было ў мінулым, а паважаючы свабоду кожнага. Ён дадаў, што кожная Царква свабодная, калі прысвячае сябе праўдзе. Гэта важна не толькі для Царквы, але і для нацыянальных супольнасцяў. (...) Аднак нельга забываць, што сапраўдная свабода рэалізуецца ў дары з саміх сябе. Калі праз Эўхарыстыю мы будзем адкрываць сэрца для бліжняга, тады будзем мець сілы, каб будаваць сапраўдныя адносіны паміж людзьмі. У кожным чалавеку трэба бачыць брата. На гэта абапіраецца адзінства лакальных і нацыянальных супольнасцяў, – падкрэсліў прамоўца.

**31 мая Ян Павел II прыбыў у Польшчу ў сваё чарговае апостальскае паломніцтва. Сваю прысутнасць на роднай зямлі ён распачаў з Вроцлава, дзе прыняў удзел у 46-ым Міжнародным Эўхарыстычным Кангрэсе. На яго паломніцкім шляху былі гарады: Легніца, Гожаў Велькапольскі, Гнезна, Познань, Каліш, Чанстахова, Закапанэ, Людзьмеж, Кракаў, Дукля і Кросна. Паломніцтва закончылася 10 чэрвеня.**



## Кардынал Гульбіновіч: *маем шчасце і гонар вітаць Пятра нашага часу*

«Сёння мы маем шчасце і гонар вітаць цябе – Пятра нашага часу», – сказаў 31 мая мітрапаліт кардынал Генрык Гульбіновіч, вітаючы Святога Айца Яна Паўла II. Кардынал напомніў, што праз 14 гадоў «у другі раз нага Намесніка Хрыста ступіла на Дольнаслёнскую Зямлю».

Прыгадваючы дэвіз Эўхарыстычнага Кангрэсу, ён адзначыў, што і вернікі, і людзі няверуючыя, трактуюць яго аднолькава: як напамін пра задачы, што абцяжарваюць палякаў, у рэалізацыі якіх павінен дапамагчы Хрыстус у Эўхарыстыі. «Ён параіць у гэтым цяжкім змаганні з вынікамі палітычнага вызвалення, якое даў пераломны 1989 год», – сказаў вроцлаўскі мітрапаліт.

Кардынал Гульбіновіч нагадаў пра зварот да палякаў Яна Паўла II шасцігадовай даўнасці. Тады Святы Айцец гаварыў пра неабходнасць у імя Хрыста прыняць выклік, які зрабіла палякам новаздабытая свабода. «У нашых сэрцах і сумленні вібруюць Твае словы і мы хочам сёння запэўніць, што тут, на Дольным Слёнску, не здымем крыжа з грудзей нашых», – заявіў кардынал Гульбіновіч. «Няхай св.Ядвіга Слёнская, заступніца дня абрання Айца Святога, папросіць для Вашай Святасці здароўя і сілы духу, а ўсім паломнікам і жыхарам Дольнага Слёнска – Божай апекі, моцнай веры і сапраўднай свабоды дзяцей Божых», – пажадаў кардынал.

## З прывітальнай прамовы Папы Яна Паўла II 31 мая 1997 г. у Вроцлаве

3. Я прыбыў да вас, дарагія землякі, у імя Езуса Хрыста – Таго, хто той Самы «учора, сёння і на векі»! (пар.Гэбр. 13, 8). Менавіта такі дэвіз дадзенага візіту. На шляху гэтай апостальскай пілігрымкі хачу разам з вамі вызнаць веру ў Таго, хто з'яўляецца «цэнтрам сусвету і гісторыі» і асабліва цэнтрам гісторыі гэтага народа, ахрышчанага больш за тысячу гадоў таму назад. Неабходна, каб мы гэтае веравызнанне аднавілі разам з усім Касцёлам, які духоўна рыхтуецца да Вялікага Юбілею 2000 Года.

Шлях дадзенага паломніцтва надзвычай багаты, а яго асноўныя этапы пазначаны трыма гарадамі: Вроцлаў, Гнезна і Кракаў. І перш за ўсё Вроцлаў, які прымае ў сябе 46-ы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс. «Зрабіце для Яго месца, Пан ідзе з неба...». Я перакананы, што гэты Кангрэс будзе спрыяць пашырэнню жыццёвай прасторы для Хрыста ў Найсвяцейшым Сакрамэнце, для ўкрыжаванага Хрыста і ўваскрэслага, Хрыста-Адкупіцеля свету – у жыцці гэтага Касцёла, які ёсць у Вроцлаве, жыцці Касцёла Польшчы і на ўсім зямным шары. Маю на ўвазе прадастаўленне доступу да ўсіх багаццяў веры і культуры, якія аб'яднаны ў Эўхарыстыі. Гаворка ідзе аб духоўнай прасторы, прасторы людскіх думак і сэрцаў, прасторы веры, надзеі і любові, а таксама аб прасторы навяртання, ачышчэння і святасці. Мы падразумяваем усё гэтае, калі спяваем: «Зрабіце для Яго месца».

Другім этапам з'яўляецца старажытнае Гнезна. Гэты візіт адбываецца ў гадавіну 1000-годдзя мучаніцкай смерці св.Войцеха, якую адзначае сёлета Касцёл Польшчы. Гэты юбілей святкуюць разам з нам чэхі, а таксама венгры, славакі і немцы. У рамках майго цяперашняга паломніцтва хацеў бы разам з вамі, браты і сёстры, падзякаваць, перш за ўсё за дар веры, якую ўмацавала ў нашай гісторыі мучаніцкая кроў Войцеха. Гэтая гадавіна мае выразнае еўрапейскае вымярэнне, бо нагадвае нам гістарычны Гнезненскі з'езд 1000 года, які адбываўся пры рэліквіях гэтага мучаніка. Постаць св.Войцеха вельмі глыбока ўвайшла ў духоўную гісторыю не толькі Польшчы, але і Еўропы, а яго пасланне да сённяшняга дня не страціла сваёй актуальнасці.

І нарэшце Кракаў, 600-годдзе Ягелонскага фонду Кракаўскага універсітэта і асабліва яго тэалагічнага факультэта, дзякуючы клопатам благаслаўлёнай каралевы Ядвігі. Тут таксама маем на ўвазе пераломны момант для духа польскага народа і польскай культуры.

Вакол гэтых трох асноўных этапаў пабудавана ўся, вельмі шырокая і багатая праграма падарожжа. А ў адзінае цэлае іх аб'ядноўвае асоба Езуса Хрыста, які той Самы «учора, сёння і на векі» (Гэбр. 13, 8), – асоба Езуса Хрыста, які сваю сілу так надзвычайна праяўляе ў жыцці святых і благаслаўлёных, каторых Касцёл выносіць на алтары. Пра гэта нам будуць сведчыць кананізацыі і беатыфікацыі, якія адбудуцца падчас гэтага апостальскага візіту. Мы прагнем разам вызнаць нашую веру ў Хрыста, а таксама прагнем зноў запрасіць Яго ў нашы сем'і, у месцы, дзе давялося нам жыць і працаваць. (...)

## Святы Айцец сустрэўся з духавенствам

Ян Павел II сустрэўся ў Вроцлаўскай катэдры з прадстаўнікамі духавенства ўсяго свету, у тым ліку з мноствам біскупаў і кардыналаў, якія знаходзіліся там на адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту.

У сваёй прамове Папа з удзячнасцю і ўзрушанасцю дзякаваў Богу за падарунак у выглядзе Эўхарыстычнага Кангрэсу і за тое, што ён адбываецца на яго айчыне.

У другой частцы набажэнства Святы Айцец каранаваў абраз НМП Маці Адаруючай, якую называюць таксама Маці Божай Сабескага. Ян Павел II уручыў вроцлаўскаму мітрапаліту кардыналу Генрыку Гульбіновічу пазалочаную манстранцыю. Вроцлаўскі мітрапаліт у сваю чаргу таксама падараваў Папу манстранцыю.

## Папа вітае дзяцей усяго свету

«Я хацеў бы пацалаваць кожнае вроцлаўскае дзіцятка, дзяцей Польшчы і ўсяго свету», – сказаў Папа Ян Павел II пасля заканчэння малітвы «Анёл Панскі».

У сувязі з Міжнародным днём дзяцей, які адзначаецца 1 чэрвеня, Папа заўважыў, што асабліва блізкія яго сэрцу дзеці пакінутыя, якім не хапае сэрцаў акружаючых, дзеці непажаданыя.

«У гэты дзень жадаю дзецям усяго свету, каб цешыліся ў радасці і любові ім належнай і так вельмі жаданай для іх самім Панам Богам», – сказаў Святы Айцец.

# Прамова Папы Яна Паўла II на экуменічным спатканні ў Народнай зале

Вроцлаў, 31 мая 1997г.

**1.** *Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус!*

Сардэчна вітаю ўсіх прысутных на нашай агульнай Экуменічнай Малітве. Дзякую ксяндзу кардыналу мітрапаліту вроцлаўскаму за прывітальныя словы. Вітаю ксяндза біскупа Яна Шарка – старшыню Польскай Экуменічнай Рады, і ў яго асобе ўсіх прадстаўнікоў Цэркваў і царкоўных Супольнасцяў, аб'яднаных у Польскую Экуменічную Раду. Усведамляючы еднасць з Хрыстом, вітаю сясцёр і братоў іншых лакальных праваслаўных цэркваў, а таксама прадстаўнікоў Цэркваў і замежных царкоўных Супольнасцяў. Сабраў нас тут Езус, наш Пан і Збавіцель. Няхай Святое Імя Яго будзе на гэтай сустрэчы пахвалёна, а Яго Дух дапаможа даць плён слову Божаму, якое мы выслухалі ў паслушэнстве веры.

**2.** Дамінуючай думкай нашай сумеснай Літургіі Слова з'яўляецца тое, што Езус змясціў у сваёй арцыкапланскай малітве напярэдадні мукі і смерці на крыжы. Гэта малітва менавіта аб еднасці яго вучняў: Ойча, «не толькі за іх прашу, але і за тых, хто дзякуючы іхняму слову, будуць верыць у Мяне; каб усе былі адзіным цэлым, як ты, Ойча, у ва Мне, а я ў Табе, каб і яны былі ў Нас адно, каб свет паверыў, што ты паслаў Мяне» (пар.Ян 17, 20-21). Заклік гэты датычыць не толькі Апосталаў, але і ўсіх пакаленняў тых, хто ад Апосталаў пераймае тую самую веру. Менавіта да гэтых Хрыстовых слоў з Вячэрніка мы заўсёды звяртаемся, як у малітве, так і ў экуменічнай дзейнасці: Ut unum sint. Гаворка ідзе тут пра еднасць на падабенства трынітарнай еднасці: «Як ты, Ойча, у ва Мне, а Я ў Табе». Узаемапраніканне Асобаў у еднасці Божай Тройцы – гэта найвышэйшая форма еднасці, найвышэйшы яе ўзор.

Калі Хрыстус моліцца аб еднасці сваіх вучняў, то Ён указвае адначасова, што гэтая еднасць з'яўляецца дарам і адначасова абавязкам. Дарам, які мы атрымліваем ад Айца і Сына і Духа Святога. Адначасова з'яўляецца абавязкам, таму што ён быў нам дадзены. Быў дадзены ўсім пакаленням хрысціянаў, пачынаючы з Апосталаў – усім у першым і другім тысячагоддзі.

Хрыстус яшчэ двойчы вяртаецца да гэтай асноўнай думкі. Бо моліцца: «А таксама хвалу, якую Ты Мне даў, Я перадаў ім, каб былі адзіным цэлым, як Ты, Айцец, у ва Мне, і Я ў Табе!» (пар.Ян 17, 22-23). Тут Хрыстус у некаторай ступені парушае межы Боскай еднасці Тройцы і пераходзіць да той еднасці, якая з'яўляецца задачай хрысціянаў. Ён гаворыць: «Яны так павінны аб'яднацца ў адзінае, каб свет даведаўся, што Ты Мяне паслаў і што Ты іх палюбіў, як палюбіў Мяне» (пар.Ян 17, 23). Вучні Хрыста павінны ўтвараць таксама відавочнае дасканалае адзінства, каб свет бачыў у іх выразны знак для сябе. Еднасць хрысціянаў мае яшчэ такое прынцыповае значэнне, што сведчыць пра сапраўднасць пасланніцтва Хрыста, аб'яўляе любоў Айца ў адносінах да Яго вучняў. Таму менавіта гэтая еднасць – найвышэйшы дар Найсвяцейшай Тройцы, з'яўляецца адначасова самым вялікім абавязкам усіх вызнаўцаў Хрыста.

**3.** Услухоўваючыся ў голас Духа Святога, Касцёлы і касцёльныя Супольнасці адчуваюць сябе закліканымі да пошукаў усё глыбейшай, не толькі ўнутранай, але і відавочнай еднасці. Еднасці, якая стала б знакам для свету, каб свет пазнаў і паверыў. Са шляху экуменізму няма адступлення!

Хрысціянам, якія жывуць у грамадствах, дзе мноства людзей мае трагічны вопыт знешніх і ўнутраных падзелаў, патрэбна свядомасць цудоўнага дару прымірэння з Богам у Езусе Хрысце, якая павінна пастаянна паглыбляцца. Толькі такім чынам яны самі змогуць стаць распаўсюджвальнікамі ідэі прымірэння сярод тых, хто жадае прымірэння з Богам, уносячы ўклад у прымірэнне паміж Касцёламі і касцёльнымі Супольнасцямі, якія ў сваю чаргу з'яўляюцца шляхам і стымулам да прымірэння народаў. Гэты заклік да прымірэння будзе таксама тэмай II Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі, якая адбудзецца ў Аўстрыі ў горадзе Грац з 23 да 29 чэрвеня бягучага года. Вынікі многіх падзей, якія адбыліся ў гісторыі свету і Еўропы, могуць быць ліквідаваны шляхам прымірэння...

Я ахвотна вяртаюся ў думках да нашага апошняга спаткання ў касцёле Святой Тройцы ў Варшаве ў 1991 годзе. Я гаварыў тады, што нам патрэбна талеранцыя, але што адной толькі талеранцыі паміж Касцёламі замала. Што ж гэта за браты, якія толькі талеруюць? Трэба таксама ўзаемна прызнаваць адзін аднаго. Гэтыя словы я сёння прыгадваю і з усёй сілай пацвярджаю іх. Нельга, аднак, абмяжоўвацца толькі адным узаемным прызнаннем. Бо Пан гісторыі ставіць нас перад трэцім тысячагоддзем

хрысціянства. Настаў вялікі час. Наш адказ павінен адпавядаць важнасці моманту асаблівага Боскага *kairosu*. Тут, на гэтым месцы, я хачу сказаць: таleranцыі недастаткова! Недастаткова ўзаемнай акцэптацыі. Езус Хрыстус, той, які ёсць і які прыходзіць, чакае ад нас выразнага знаку еднасці, чакае агульнага пацверджання.

Сёстры і браты, з гэтым заклікам я да вас прыйшоў. Прашу аб супольным пацверджанні, прадстаўленым Хрысту перад усім светам. У Імя Хрыста прашу! Звяртаюся найперш да ўсіх вернікаў каталіцкага Касцёла, асабліва да маіх братоў у біскупскай паслузе, а таксама да духавенства, да асобаў кансэкраванага жыцця і да ўсіх свецкіх. Асмельваюся таксама прасіць вас, умілаваныя сёстры і браты з іншых Цэркваў. У Імя Езуса прашу аб супольным хрысціянскім пацверджанні. Наша вера, жывая і глыбокая, вельмі патрэбна Захаду на гістарычным этапе пабудовы новай сістэмы разнастайных суадносінаў. Трывалага знаку аддання Хрысту патрабуе Усход, духоўна спустошаны гадамі праграмнай атэізацыі. Еўропа патрабуе ўсіх нас, салідарна сабраных каля Крыжа і Евангелля. Мы павінны ўважліва распазнаваць знакі часу. Езус Хрыстус чакае ад усіх пацвярджэння веры. Лёс евангелізацыі звязаны з пацвярджэннем еднасці, аб якой сведчыць Касцёл. Знакам такога сумеснага пацвярджэння з'яўляецца братэрскае супрацоўніцтва ў экуменічнай сферы ў Польшчы. Я думаю пры гэтым аб спецыяльнай групе, якая працавала над Сакрамэнтам Хрышчэння, фундаментам ужо існуючай еднасці хрысціянаў. Плён гэтай працы ўдалося ўжо апублікаваць. Вы рыхтуеце таксама экуменічны пераклад Бібліі. Прыватная ініцыятыва некалькіх асобаў вылілася ў міжцаркоўнае супрацоўніцтва. Вынік такога супрацоўніцтва – экуменічны пераклад Евангелля паводле св.Мацвея, апублікаваны 17 лютага г.г. Біблейскім Таварыствам. Мы спадзяемся, што ўся Біблія ў экуменічным выданні будзе выдадзена да Вялікага Юбілею 2000 Года. Сёння вы маеце намер стварыць новую міжцаркоўную экуменічную структуру з большай дынамікай. Гэтая надзвычай неабходная ініцыятыва зыходзіць ад Польскай Экуменічнай Рады. Спадзяюся, што задума ўвасобіцца ў дакладныя публічныя спатканні, дыялогі, дамовы і канкрэтныя сумесныя дзеянні, а таксама пацверджанні. Аўтарам гэтага праекта хачу ад усяго сэрца падзякаваць і выказаць шчырае прызнанне за гэтыя высакародныя намаганні.

**4.** Да сумеснага пацвярджэння вядзе нялёгкі шлях прымірэння, без якога не можа быць еднасці. Нашым Касцёлам і касцельным Супольнасцям патрэбна прымірэнне. Ці можам мы быць цалкам прымiраны з Хрыстом, калі не поўнасцю прымірыліся паміж сабой? Ці можам разам і вынікова сведчыць пра Хрыста, не будучы паміж сабой у згодзе? Ці можам прымірыцца самі, не прабачаючы адзін аднаму? Умовай прымірэння ёсць прабачэнне, якое немагчыма без унутранай перамены і навяртання, бо гэта – ласка. «Экуменічны ўдзел павінен грунтавацца на навяртанні сэрцаў і на малітве» (*Ut unim sint*, 2).

Чытанне з Кнігі прарока Эзэкіэля аб рассейванні Ізраіля сведчыць пра неабходнасць навяртання: «Сабяру вас сярод народаў, сабяру вас з усіх краінаў і прывяду вас назад у ваш край (...) І дам вам сэрца новае і дух новы ўдыхну ў нутро вашае, забяру ў вас сэрца каменнае і дам вам сэрца з цела» (36, 24.26). Каб ажыццявіць экуменічны шлях еднасці, трэба змяніць сэрца іаднавіць розум. Мы павінны выпрошваць у Духа Святога ласку пакоры, велікадушных брацкіх адносінаў да іншых. Святы Павел у Лісце да Эфесцаў заахвочвае адрасатаў, каб паводзілі сябе чынам, дастойным паклікання, каб развівалі ў сабе дабрадзейнасці пакоры, спакою, цярплівасці і каб прымалі адзін аднаго ва ўзаемнай любові (пар. 4, 1-3). Такое супрацоўніцтва людзей з ласкай Святога Духа становіцца гарантыяй супольнай надзеі ўсіх вучняў Хрыста ў дасягненні поўнай еднасці. Падтрымайце наш экуменічны ўдзел шчырай малітвай. У гэтым, другім тысячагоддзі, у якім еднасць вучняў Хрыста падвергласся драматычным падзелам на Усходзе і Захадзе, малітва аб поўным вяртанні яе – наш асаблівы абавязак. Абавязкам з'яўляецца таксама настойлівае імкненне аднавіць адзінства, якога хацеў Хрыстус, і абавязкам з'яўляецца маліцца за гэтае адзінства: бо яно – дар Найсвяцейшай Тройцы. Чым мацнейшай сувяззю мы будзем паяднаны з Айцом, Сынам і Святым Духам, тым лягчэй нам будзе паглыбляць узаемнае братэрства.

**5.** Сённяшняя сустрэча праходзіць у межах Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу, які адбываецца менавіта тут, у Вроцлаве. Ён – праяўленне нашай веры і пабожнасці, але адначасова таксама і вялікі акт культу, які падтрымлівае ў Касцёле памяць пра Хрыста. Эўхарыстыя, уяўляючы сабой таямніцу адкуплення, ахвяру, аднойчы складзеную на крыжы Хрыстом, завяршае паяднанне з Ім, абуджае імкненне і надзею нашага ўваскрэсення ў паўнаце Яго жыцця. Гэтая вялікая таямніца веры ўзмацняе нашу ўнутраную свядомасць асабістага прымірэння з Хрыстом і абуджае неабходнасць прымірэння з іншымі.

Хрысціяне, што належаць да розных Цэркваў, якіх аб'ядноўвае тое самае хрышчэнне, паўсюдна прызнаюць

вялікую ролю, якую выконвае Эўхарыстыя ў прымірэнні чалавека з Богам і з бліжнімі, хоць "з прычыны разыходжання ў пытаннях веры яшчэ не ўяўляецца магчымым сумеснае выкананне той жа Эўхарыстычнай літургіі. Акрамя гэтага, мы вельмі жадаем адпраўляць разам адзіную Эўхарыстыю Хрыста, і гэтае жаданне становіцца супольнай глыбокай пашанай і сумеснай упрашальнай малітвай. Разам звяртаемся да Айца і робім гэта з кожным разам усё больш «адным сэрцам». Часам здаецца, што ўжо зусім недалёка тая хвіліна, калі можна будзе канчаткова змацаваць гэтую "рэальную, хоць яшчэ недасканалую", еднасць» (*Ut unum sint*, 45).

На гэтым вялікім свяце, якое мы адзначаем тут, у Вроцлаве, з удзелам не толькі католікаў, але таксама братоў з іншых Цэркваў Польшчы і з-за мяжы, можна бачыць пачатак экуменічнага навяртання і чаканага прымірэння Цэркваў і хрысціянскіх Супольнасцяў. Гэтае прымірэнне будзе дасканалым, калі здолее сабраць усіх нас у цэлебрацыі вакол аднаго келіха. Гэта стане сведчаннем еднасці кожнай супольнасці на лакальным і універсальным узроўні, праяўленнем нашай дасканалай еднасці з Панам і паміж намі. Бо «амаль усе (...), хоць па-рознаму, сумуюць па адзіным і відавочным Божым Касцёле, які быў бы сапраўды паўсюдным і выконваў місію перад усім светам, каб гэты свет звярнуўся да Евангелля і такім чынам атрымаў збавенне на хвалу Божую» (*Ut unum sint*, 7).

На працягу апошніх гадоў значна зменшылася дыстанцыя, якая раздзяляе Цэрквы і царкоўныя Супольнасці. Але гэтая дыстанцыя яшчэ застаецца занадта вялікай! Надзвычай вялікай! Не гэтага хацеў Хрыстус! Мы павінны зрабіць усё, каб вярнуць паўнату еднасці. Нам нельга стамляцца на гэтым шляху. Звернемся яшчэ раз да арцыкапланскай малітвы Езуса, у якой Ён гаворыць: «Каб усе былі адно, як Ты, Ойча, у ва Мне, а Я ў Табе (...), каб свет паверыў, што Ты Мяне паслаў» (пар.Ян 17, 21). Няхай гэтыя словы Хрыста стануць для ўсіх нас заклікам перад надыходзячым 2000 годам, каб прыкласці намаганні на карысць вялікай справы аб'яднання.

У сённяшняй літургіі мы спяваем псальм пра Добрага Пастыра: «Пан – мой пастыр, мне хапае ўсяго. (...) Ён вядзе мяне да вады, дзе я магу адпачыць: асвяжае маю душу. Вядзе мяне неабходнымі сцежкамі праз ласку імя свайго. Калі б ішоў і па цёмнай даліне, злога не спужаюся, бо Ты побач са мною" (Пс 23/22, 1-3). Гэта важны заклік да даверу і экуменічнай надзеі. Калі падзелы сярод хрысціянаў – гэта і ёсць тая «цёмная даліна», праз якую праходзяць усе нашы Супольнасці, то, аднак, з намі ёсць Пан, ёсць Хрыстус – Добры Пастыр. Ён вядзе і прывядзе раздзеленыя хрысціянскія Супольнасці да той еднасці, пра якую так горача маліўся напярэдадні сваёй крыжовай мукі.

Падчас гэтай супольнай экуменічнай малітвы будзем прасіць Бога, які ёсць Айцом усіх нас, каб сабраў у адзінае цэлае параскіданых дзяцей сваіх, каб вёў іх дзейсна па шляху прабачэння і прымірэння для супольнага сведчання пра Езуса Хрыста, Сына Свайго, які ёсць наш Пан і Збаўца, той Самы быў учора, ёсць сёння і на векі вякоў (пар.Гэбр. 13, 8).

*«Ойча, учыні так, каб усе былі адно» – ut unum sint* (пар.Ян 17, 21).

## **ВРОЦЛАЎ:** 250 тысяч вернікаў на Святой Імшы

1 чэрвеня ў Вроцлаве на Св.Імшы, цэлебраванай Янам Паўлам II на заканчэнне 46-га Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу, сабралася каля 250 тысяч вернікаў. Вітаючы вернікаў, якія прыбылі з усяго свету, Папа з асаблівай сардэчнасцю звярнуўся да прадстаўнікоў братніх краінаў. Пасля заканчэння малітвы «Анёл Панскі», якая адмаўлялася пасля Св.Імшы на цэнтральнай плошчы Вроцлава, Папа звярнуўся да пілігрымаў з Чэхіі, Славакіі, Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. «Многія з вас, магчыма, упершыню сустракаюцца з Папам на яго паломніцкім шляху», – сказаў ён, дадаючы пры гэтым, што мае на ўвазе асабліва пілігрымаў з Казахстана.

Акрамя гэтага, Ян Павел II прывітаў дэлегацыі з усіх куткоў свету: Азіі, Аўстраліі, Афрыкі, Паўночнай, Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі і Еўропы. «Мы дзякуем Богу за тое, што даў нам ласку сёння разам у адзіным духу і адзіным сэрцам аддаваць пашану Хрысту ў Найсвяцейшай Эўхарыстыі», – сказаў Святы Айцец. Папа заклікаў вернікаў: «Ідзем жа разам з Хрыстом будаваць цывілізацыю любові, цывілізацыю праўды, цывілізацыю свабоды, той свабоды, дзеля якой нас вызваліў Хрыстус».

***Statio Orbis** – Святая Імша, якая завяршала 46-ы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс. У ёй прымалі ўдзел дэлегацыі з 84 біскупстваў – ад Аўстраліі да Зімбабвэ.*

*Лацінскае "Statio Orbis" азначае "Стацыя Свету". Паняцце "стацыйнага Касцёла" звязана з гісторыяй Рымскага Касцёла першых стагоддзяў хрысціянства, асабліва з асобаю Папы Грыгорыя Вялікага. У гады яго пантыфікату духавенства і вернікі пачалі збірацца на цэлебраванні Эўхарыстыі пад кіраўніцтвам Папы альбо яго прадстаўніка ў адным касцеле – стацыйным. Такім чынам Statio Urbis, ці Стацыя Горада, дэманстравала еднасць рымскага Касцёла. Стацыйныя дні звычайна прыпадалі на перыяд Вялікага Посту, а таксама на нядзелі і святы, звязаныя з асобнымі таямніцамі Хрыста і асобамі святых. З таго часу захаваліся нататкі аб 89-і такіх стацыях.*

*Папа Ян XXIII таксама далучыўся да гэтай традыцыі і ў Папяльцовую Сераду 1959 года правёў набажэнства ў базыліцы Санта Сабіна на Авентыне. Адбывалася гэта яшчэ перад II Ватыканскім Саборам, і таму было нязвыклым, што Папа выязджае з Ватыкану. Годам пазней у Мюнхене праходзіў Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс і Святы Айцец прызваў яго арганізатараў, каб цэлебрацыя Кангрэсу адбывалася па мадэлі рымскіх вялікапосных стацый. У сваім лісце Папа пісаў, што гэты Кангрэс павінен адпавядаць літургічнай цэлебрацыі са стацыямі накшталт тых, якія, паводле правіл, захоўваюцца ў Рыме у часе Вялікага Посту, аднак не як Statio Urbis, але як Statio Orbis – Стацыя Свету. "Гэта павінна быць цэлебрацыя, якая адносіцца да ўсяго зямнога шара, дзе шматлікія вернікі ўзносяць гарачыя малітвы да неба ў інтэнцыях, неабходных для свету", – сказаў Ян XXIII.*

# *Гамілія Яна Паўла II на закрыцці 46-га Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу*

1 чэрвеня 1997г.

### *1. Statio Orbis*

46-ы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс дасягнуў свайго кульмінацыйнага моманту: Statio Orbis! Вакол гэтага алтара духоўна аб'ядноўваецца сёння ўвесь Касцёл з усіх кантынентаў зямнога шара. Ён яшчэ раз імкнецца перад усім светам урачыста скласці вызнанне веры ў Эўхарыстыю і праспяваць гімн удзячнасці за гэты невымоўны дар Божай любові. Сапраўды, «умілаваўшы сваіх на свеце, да канца іх палюбіў» (пар.Ян 13, 1). Эўхарыстыя з'яўляецца крыніцай і вяршыняй жыцця Касцёла (пар. Sacrosanctum Concilium, 10). Касцёл жыве Эўхарыстыяй, з яе чэрпае духоўную энергію для выканання сваёй місіі. Яна дае яму сілы расці, яна яго аб'ядноўвае. Эўхарыстыя – гэта сэрца Касцёла!

Гэты Кангрэс арганічна ўпісваецца ў кантэкст Вялікага Юбілею 2000 Года. У праграме духоўнай падрыхтоўкі да Юбілею год прысвечаны асаблівай кантэмпляцыі Асобы Езуса Хрыста: «Езус Хрыстус, адзіны Збавіцель свету, той Самы ўчора, сёння і на векі» (пар.Гэбр. 13,8). Ці ж у гэтым менавіта годзе магло не хапаць гэтага эўхарыстычнага вызнання веры ўсяго Касцёла?

На шляху Эўхарыстычных Кангрэсаў, які пралягае праз усе кантыненты, чарговым этапам з'яўляецца Вроцлаў – Польшча, Цэнтральна-Усходняя Еўропа. Тут адбыліся змены, якія далі пачатак новай эпосе ў гісторыі сучаснага свету. Касцёл хоча такім чынам падзякаваць Хрысту за дар свабоды, якую атрымалі ўсе гэтыя народы, што так многа выцерпелі падчас таталітарнай няволі. Кангрэс адбываецца ў Вроцлаве, у горадзе з багатай гісторыяй, з багатымі традыцыямі хрысціянскага жыцця. Вроцлаўская архідыяцэзія рыхтуецца да святкавання свайго 1000-годдзя. Вроцлаў – горад, размешчаны на стыку трох краінаў, лёс якіх цесна звязаны гісторыяй. Ён з'яўляецца ў пэўнай ступені горадам спатканняў, горадам, які аб'ядноўвае. Тут адпаведным чынам сустракаюцца духоўныя традыцыі Усходу і Захаду. Усё гэта надае Эўхарыстычнаму Кангрэсу ў Вроцлаве і асабліва гэтай Statio Orbis выключнае значэнне.

Я ахопліваю вачамі і сэрцам усю нашу эўхарыстычную супольнасць, якая мае сапраўды міжнародны, сусветны характар. Увесь паўсюдны Касцёл прысутнічае сёння ў Вроцлаве праз сваіх прадстаўнікоў. (...)

Вітаю вас усіх, дарагія паломнікі, якія прыехалі сюды таксама з аддаленых куткоў зямлі. Вітаю вас, дарагія землякі з усёй Польшчы. Вітаю таксама усіх тых, хто ў гэты момант духоўна аб'яднаны з намі праз радыё і тэлебачанне ва ўсім свеце. Сапраўды, гэта і ёсць праўдзівая Statio Orbis! Цяжка не быць глыбока ўзрушаным перад гэтаю эўхарыстычнаю супольнасцю планетарнага маштабу, якая ў гэты момант атачае алтар.

### 2. *«Гэта вялікая таямніца веры»*

Каб пранікнуць у таямніцу Эўхарыстыі, неабходна зноў і зноў вяртацца ў Вячэрнік, туды, дзе ў Вялікі Чацвер адбылася Апошняя Вячэра. У сённяшняй літургіі св.Павел гаворыць менавіта аб устанаўленні Эўхарыстыі. Здаецца, гэта самы стары запіс, у якім гаворыцца пра Эўхарыстыю, ранейшы нават за запіс Евангелістаў. Св.Павел у Лісце да карынцянаў піша: «Пан Езус у тую ноч, калі быў выдадзены, узяў хлеб і, падзяку склаўшы, паламаў і сказаў: «Гэта ёсць Цела маё за вас / выдадзенае/. Чыніце гэта дзеля маёй памяці!» Падобным чынам, скончыўшы вячэру, узяў келіх, гаворачы: «Гэты келіх ёсць Новым Запаветам у Крыві маёй. Чыніце гэта, колькі разоў піць будзеце, дзеля маёй памяці! Бо колькі разоў спажывеце гэты хлеб, альбо п'яце келіх, смерць Панскую абвяшчаеце, пакуль не прыйдзе» (1 Кар 11, 23-26). /Абвяшчаем смерць Тваю, Пане Езу/ У словах гэтых заключана само ядро эўхарыстычнай таямніцы. У іх мы знаходзім тое, чаму штодзённа з'яўляемся сведкамі і ўдзельнікамі, калі справуем і прымаем Эўхарыстыю. У Вячэрніку Езус здзяйсняе перамяненне. Сілаю Яго слоў хлеб, захоўваючы свой знешні выгляд, становіцца Целам Хрыста, віно ж, захоўваючы свой знешні выгляд, – становіцца Яго Крывёй. Гэта вялікая таямніца веры!



Выконваючы гэтую таямніцу, мы не толькі аднаўляем тое, што ўчыніў Хрыстус у Вячэрніку, але таксама ўваходзім у таямніцу Яго смерці. «Абвяшчаем смерць Тваю» – смерць адкупляльную. «Вызнаем Тваё ўваскрэсенне!» Мы з'яўляемся сапраўды ўдзельнікамі Triduum Sacrum і Пасхальнай Ночы. Мы – удзельнікі збаўленчай таямніцы Хрыста і чакаем Яго прыйсця ў хвале. Разам з устанаўленнем Эўхарыстыі мы ўвайшлі ў перыяд канца часу, перыяд чакання другога і апошняга прышэсця Хрыста, калі адбудзецца суд над светам і адначасова здзейсніцца справа адкуплення. Аб усім гэтым Эўхарыстыя не толькі гаворыць. У Эўхарыстыі ўсё гэта ажыццяўляецца – у ёй усё гэта здзяйсняецца. Сапраўды, яна – вялікі, найвялікшы сакрамэнт Касцёла. Касцёл справуе Эўхарыстыю, а Эўхарыстыя адначасова творыць Касцёл.

### 3. *«Я ёсць хлеб жывы» (Ян 6, 51).*

Пасланне Евангелля ад Яна дапаўняе літургічны вобраз гэтай вялікай эўхарыстычнай таямніцы, якую сёння праводзім у кульмінацыйны момант Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу ў Вроцлаве. Словы з Евангелля ад св.Яна – гэта вялікае прадвесце Эўхарыстыі пасля цуду размнажэння хлеба, які адбываўся непадалёк ад Кафарнаум. Апярэджваючы падзеі, яшчэ да таго, як Эўхарыстыя будзе ўстаноўлена, Хрыстус абвяшчае, чым яна з'яўляецца. Ён гаворыць: «Я – хлеб жывы, які сышоў з неба. Той, хто спажывае гэты хлеб, будзе жыць вечна. Хлебам, які Я дам, з'яўляецца Маё Цела за жыццё свету» (пар. Ян 6, 51). А калі гэтыя словы выклікалі незадаволенасць многіх слухачоў, Езус сказаў: «Сапраўды, сапраўды гавару вам: Калі не будзеце спажываць Цела Сына Чалавечага і не будзеце піць Крыві Яго, не будзеце мець жыцця ў сабе. Хто спажывае Маё Цела і п'е Маю Кроў, мае жыццё вечнае, а Я яго ўваскрашу ў дзень апошні. Цела Маё з'яўляецца сапраўднай ежай, а Кроў – сапраўдным напоем. Хто спажывае Маё Цела і Кроў Маю п'е, ёсць у ва Мне, а Я – у ім» (Ян 6, 53-56).

Словы гэтыя гавораць пра саму сутнасць Эўхарыстыі. Гэта Хрыстус прыйшоў на свет, каб адарыць чалавека жыццём Божым. Ён не толькі абвяшчаў Добрую Навіну, але таксама ўстанавіў Эўхарыстыю, якая павінна да сканчэння свету нагадваць пра Яго адкупляльную таямніцу. А сродкам гэтага выяўлення Ён выбраў элементы прыроды – хлеб і віно, ежу і напой, якія чалавек павінен спажываць, каб жыць. Эўхарыстыя і з'яўляецца менавіта такой ежай і напоем. Гэтая ежа заключае ў сабе ўсю моц Хрыстовага адкуплення. Чалавеку, каб жыць, патрэбны ежа і напой. Чалавеку, каб атрымаць жыццё вечнае, патрэбна Эўхарыстыі. Гэта ежа і напой, якія змяняюць жыццё чалавека і адкрываюць перад ім гарызонт жыцця вечнага. Спажываючы Цела і Кроў Хрыста, чалавек ужо тут, на зямлі, носіць у сабе часцінку жыцця вечнага, бо Эўхарыстыя – гэта сакрамэнт жыцця ў Богу. Хрыстус гаворыць: «Як Мяне паслаў існы Айцец, а Я жыву праз Айца, так і той, хто Мяне спажывае, будзе жыць дзякуючы Мне» (пар.Ян 6, 57).

### *4. «Вочы ўсіх скіраваны да Цябе, а Ты корміш іх у адпаведным часе» (пар. Пс 145, 15).*

У першым чытанні сённяшняй літургіі Маісей гаворыць нам пра Бога, які корміць свой народ падчас падарожжа цераз пустыню ў Зямлю Запаветную: «Помні пра ўвесь шлях, якім вёў цябе Пан, Бог твой, па пустыні вось ужо сорак гадоў, каб ты стаў пакорным, каб выпрабаваць цябе і даведацца, што ў тваім сэрцы (...). Ён карміў цябе ў пустыні маннаю, якой не ведалі твае продкі, хочучы цябе выпрабаваць, каб у будучым табе зрабіць дабро» (пар. Pwt 8, 2.6). Гэты вобраз, вобраз люду, вандруючага па пустыні, які паяўляецца з дадзеных слоў, адносіцца таксама і да нас, тых, хто набліжаецца да канца другога тысячагоддзя ад нараджэння Хрыста. У гэтым вобразе заключаны ўсе народы ўсёй зямлі і асабліва тыя, хто галадае.

Падчас сённяшняй Statio Orbis неабходна згадаць усю «геаграфію голаду», якая ахоплівае мноства мясцінаў на зямлі. У дадзены момант мільёны нашых братоў і сясцёр галадаюць, а шмат з іх памірае ад голаду, асабліва дзеці! У эпоху небывалага развіцця тэхнікі і сучасных тэхналогій трагедыя голаду з'яўляецца вялікім выклікам і абвінавачваннем! Зямля ў стане накарміць усіх. Чаму ж сёння, у канцы XX стагоддзя, тысячы людзей гінуць з голаду? Тут неабходны ў сусветным маштабе сур'ёзны рахунак сумлення – рахунак сумлення з грамадскай справядлівасці, з элементарнай салідарнасці людзей.

Дастаткова нагадаць асноўную праўду – зямля належыць Богу, а ўсе яе багацці Бог перадаў у рукі чалавека, каб ён распараджаўся імі справядліва, каб яны служылі дзеля дабра ўсіх. Такое прызначэнне створаных каштоўнасцяў. На карысць гэтага сведчыць сам закон прыроды. Падчас гэтага Эўхарыстычнага Кангрэсу не можа быць недахопу нашай салідарнай просьбы аб хлебе ад імя ўсіх тых, хто галадае. Просьбу гэтую перш за ўсё скіроўваем да Бога, Айца ўсёй чалавечай сям і: «Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння!». Але скіроўваем яе таксама да людзей палітыкі і эканомікі, якія нясуць адказнасць за справядлівы падзел багацця ў маштабе ўсяго свету і асобных краінаў: трэба, нарэшце, пакласці канец бядзе голаду! (Апладысменты). Няхай салідарнасць пераможа няспыннае жаданне прыбытку і тыя законы рынку, якія не ўлічваюць правы чалавека, што падлягаюць перадачы. (Апладысменты)

На кожным з нас ляжыць часцінка адказнасці за гэты несправядлівы стан. Кожны з нас у той ці іншай ступені сутыкаецца з голадам і няшчасцем іншых. Ці ўмеем мы падзяліцца хлебам з тымі, хто яго не мае, ці хто мае менш за нас! Давайце навучымся адкрываць нашы сэрцы патрэбам братоў і сясцёр, якія жывуць у галечы і недастатку! Часам саромеюцца ў гэтым прызнацца, укрываючы сваю беднасць. Трэба ім далікатна працягнуць братнюю руку дапамогі. Гэта таксама навука, якую нам дае Эўхарыстыя, – хлеб жыцця. Гэтую навуку ў некалькіх словах надзвычай красамоўна выклаў св.брат Альберт, кракаўскі нябога, які сваё жыццё прысвяціў служэнню ўбогім. Ён часта гаварыў: «Трэба быць добрым, як хлеб, які ляжыць на стале для ўсіх, ад якога кожны можа адрэзаць кавалак і з'есці, калі галодны».

### *5. «Для свабоды вызваліў нас Хрыстус» (Гал. 5,1).*

Тэмаю Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу ў Вроцлаве з'яўляецца свабода. Асабліва тут, у гэтай частцы Еўропы, якая на працягу многіх гадоў цярпела пакутныя выпрабаванні зняволення нацысцкага і камуністычнага таталітарызму, свабода мае асаблівы смак. Тут ужо само слова «свабода» прымушае мацней біцца сэрцы. Несумненна з той прычыны, што ў мінулыя дзесяцігоддзі за яе трэба было плаціць вельмі вялікую цану. Глыбокія раны засталіся пасля тага часу ў людскіх душах. Шмат гадоў павінна прайсці, каб яны зарубцаваліся.

Кангрэс заклікае нас паглядзець на свабоду чалавека ў перспектыве Эўхарыстыі. Мы спяваем у гімне кангрэсу: «Ты пакінуў нам дар Эўхарыстыі, каб ствараць гармонію ўнутранай свабоды». Гэта надзвычай важнае сцвярджэнне. Тут гаворыцца пра «гармонію свабоды». Так, сапраўдная свабода патрабуе гармоніі. Але пра якую гармонію тут гаворка? Гаворка ідзе, перадусім, пра гармонію маральную, гармонію ў сферы вартасцяў, гармонію праўды і дабра. У сітуацыі пусткі ў сферы вартасцяў, калі ў маральнай сферы пануюць хаос і блытаніна – свабода памірае, чалавек вольны становіцца паднявoленым – нявольнікам інстынктаў, пачуццяў ці псеўдакаштоўнасцяў.

Бясспрэчна, што гармонія свабоды ствараецца ў працы. Сапраўдная свабода заўсёды дарагая! Кожны з нас павінен пастаянна пачынаць гэту працу наноў. І тут паўстае наступнае пытанне: ці можа чалавек гэтую гармонію свабоды стварыць сам, без Хрыста, ці нават насуперак Хрысту? Пытанне выключна драматычнае, але якое ж яно актуальнае ў грамадскім кантэксце, перанасычаным канцэпцыямі дэмакратыі, інспіраванай ліберальнай ідэялогіяй! (Апладысменты). Бо сёння намагаюцца давесці чалавеку і цэлым грамадствам, што Бог – гэта перашкода на шляху да поўнай свабоды (апладысменты), што Касцёл – вораг свабоды, што ён не разумее свабоды, што яе баіцца. Тут адбываецца нейкая нечуваная блытаніна паняццяў (апладысменты). Касцёл жа не перастае ў свеце быць вешчуном Евангелля свабоды! Гэта яго місія. «Хрыстус вызваліў нас для свабоды» (Гал. 5, 1)! Таму хрысціянін не баіцца свабоды, ад свабоды не ўцякае! А падыходзіць да

яе творча і адказна, як да задачы свайго жыцця. Бо свабода не толькі дадзена нам Богам, але таксама зададзена! Яна з'яўляецца нашым пакліканнем: «Вы тым самым, браты, – піша Апостал, – пакліканы да свабоды» (Гал. 5, 13) /А тое, што Касцёл – вораг свабоды, з'яўляецца нейкім асаблівым нонсенсам тут, у гэтай краіне і на гэтай зямлі, сярод гэтага народа, дзе Касцёл столькі разоў даказваў, што ён ёсць найлепшым вартаўнікам свабоды (апладысменты), як у мінулым стагоддзі, так і сёння і ў апошнім пяцідзесяцігоддзі. Ён вартаўнік свабоды! Бо Касцёл верыць, што для свабоды вызваліў нас Хрыстус!» (апладысменты).

«Ты пакінуў нам дар Эўхарыстыі, каб ствараць лад унутранай свабоды». На чым асноўваецца гэты лад свабоды, прадстаўлены ў Эўхарыстыі? У Эўхарыстыі Хрыстус прысутнічае як Той, хто аддае сябе ў якасці дара чалавеку, як той, хто служыць чалавеку: «Палюбіўшы сваіх, палюбіў іх да канца» (Ян 13, 1). Сапраўдная свабода вымяраецца ўзроўнем гатоўнасці служыць і прынесці сябе ў дар. Толькі так зразуметая свабода – сапраўды творчая, стварае наша чалавецтва, стварае сувязь паміж людзьмі. Стварае і аб' ядноўвае, а не раздзяляе! Як жа патрэбна свету гэта яднаючая свабода, патрэбна Еўропе, патрэбна Польшчы! Хрыстус у Эўхарыстыі застанецца ва ўсе часы неспасцігальным узорам пазіцыі «пра-экзістэнцыі», г.зн. пазіцыі існавання для іншага, для іншага чалавека. Хрыстус быў /.../. Ён увесь быў для свайго Айца нябеснага, а ў Айцу – для кожнага чалавека. II Ватыканскі Сабор растлумачвае, што чалавек знаходзіць сябе, а таксама поўны сэнс сваёй свабоды менавіта праз бескарысны дар з сябе самога (пар. Gaudium et spes, 24). Сёння, у часе гэтай Statio Orbis, Касцёл запрашае нас увайсці ў гэтую эўхарыстычную школу свабоды, каб, углядаючыся з верай у Эўхарыстыю, мы сталі будаўнікамі новага, евангельскага ладу свабоды – унутры нас саміх, а таксама ў грамадствах, у якіх нам давялося жыць і працаваць.

***6. «Кім ёсць чалавек, што пра яго памятаеш, кім ёсць сын чалавечы, што Ты пра яго клапоцішся?» (пар. Пс 8, 5).***

Калі разважаем пра Эўхарыстыю, нас ахоплівае вялікае здзіўленне веры не толькі над таямніцаю Бога і Яго бязмежнай любові, але таксама над таямніцаю чалавека. Перад Эўхарыстыяй напрошваюцца словы Псаломшчыка: «Кім жа ёсць чалавек, што пра яго так клапоцішся»?! Якую вялікую вартасць мае чалавек у вачах Божых, калі Бог сам корміць яго сваім Целам! Якую вялікую прастору заключае ў сабе чалавечае сэрца, калі запоўніць яго можа толькі Бог! «Бо стварыў Ты нас для сябе, – вызнаём мы ўслед за св.Аўгустынам, – і неспакойнае наша сэрца, пакуль не спачне ў Табе» (Confessiones, I, 1, 1).

*Statio Orbis.* Увесь Касцёл аддае сёння асаблівую пашану і хвалу Табе, Хрысце, Адкупіцель чалавека, укрыты ў Эўхарыстыі. Увесь Касцёл публічна вызнае сваю веру ў Цябе, які стаў для нас Хлебам жыцця. І складае Табе падзяку за тое, што ты – Бог-з-намі, за тое, што ты – Эмануіл!

«Твая пашана, хвала, наш вечны Пане, ва ўсе часы няхай будзе. Табе сёння мы разам з усім народам аддаем паклон і пашану, мы, твае слугі.

Глыбока ўдзячныя Тваёй міласці за гэты вялікі дар Тваёй усемагутнасці, што Ты падараваў нам, не вартым, у гэтым Сакрамэнце нам, тут прысутным». Амэн.

## Арцыбіскуп Кандрусевіч:
### Кангрэс мае вялікае значэнне для постсавецкіх краінаў

Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс, які закончыўся ў Вроцлаве, будзе мець вялікае значэнне для Касцёла краінаў былога Савецкага Саюза, – адзначыў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, апостальскі адміністратар каталікаў у еўрапейскай частцы Расіі. Арцыбіскуп падкрэсліў, што гэта было адно з першых спатканняў, калі каталікі з гэтых тэрыторый змаглі пазнаёміцца з вопытам Касцёла на Захадзе.

На яго думку, вроцлаўскі Кангрэс з'яўляецца таксама сур'ёзным крокам на шляху да экуменічнай згоды паміж каталіцызмам і праваслаўем. Пасланне Эўхарыстычнага Кангрэсу, сканцэнтраванае вакол праблемы, як жыць паўнатой хрысціянскага жыцця ў стане свабоды, на думку арцыбіскупа Кандрусевіча, мае велізарнае значэнне для каталікаў з постсавецкіх краінаў, бо свабода па сутнасці з'яўляецца для іх вялікай праблемай, якую сёння яны не заўсёды здольны вырашыць. "Вопыт заходняга Касцёла, які выпрацаваў разнастайныя формы жыцця і душпастырства людзей, ахопленых хваляй свабоды, з'яўляецца для нас бясцэнным дарам, які мы набываем тут, у Вроцлаве".

# *Прамова Папы Яна Паўла II перад малітвай "Анёл Панскі"*

1 чэрвеня 1997г., Вроцлаў

«Мне хочацца ў гэтую хвіліну паўтарыць словы: «Усе куткі зямлі ўбачылі збаўленне Бога нашага. Зямля ўбачыла свайго Збаўцу». Заўважыла Яго тут, у Вроцлаве, заўважыла Яго вачыма веры прадстаўнікоў усіх кантынентаў нашай зямлі. Выражаю вялікую ўдзячнасць да Божага прадбачання, што 46-ы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс мог адбывацца тут, у Вроцлаве. Усім прысутным дзякую за ўдзел у гэтай вялікай таямніцы нашай веры, таямніцы Эўхарыстычнага Хрыста. (...) Сардэчна вітаю дэлегацыі, якія прыехалі на Кангрэс: з Польшчы, з усіх бакоў свету, з далёкай Азіі, Аўстраліі, Афрыкі, Паўночнай, Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі, а таксама з Еўропы. Асабліва вітаю паломнікаў з братніх краінаў: Чэхіі, Славакіі, Украіны, Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Многія з вас, напэўна, упершыню сустракаюць Папу на Яго паломніцкім шляху. Можа, памыляюся, але я маю на ўвазе перш за ўсё паломнікаў з Казахстана. Дзякуем Богу за тую ласку, што сёння мы можам у адным Духу і адным сэрцам ушаноўваць Хрыста ў Найсвяцейшай Эўхарыстыі. Заканчваем Кангрэс на гэтай, так багатай на гісторыю, зямлі. Дольнаслёнская зямля з'яўляецца зямлёй асабліва га сведчання, зямлёй, асвечанай прысутнасцю вялікіх сведкаў веры. На гэтай зямлі справамі міласэрнасці займалася святая Ядвіга Слёнская, маці слёнскіх Пястаў. Тут таксама правяла першую частку свайго жыцця благаслаўлёная Тэрэса Бенедыкта ад Крыжа, Эдзіт Штайн, кананізацыя якой мае адбыцца.

Сёстры і браты, тут, у Вроцлаве, мы ўшаноўвалі Эўхарыстычнага Хрыста. Няхай гэта вялікая таямніца веры заменіцца цяпер службаю чалавеку, асабліва гэтаму, найменшаму. Ідзем жа разам з Хрыстом будаваць цывілізацыю Любові, цывілізацыю Праўды, цывілізацыю Свабоды, той свабоды, для якой нас вызваліў Хрыстус.

Сёння Дзень Дзіцяці. Я хацеў бы пацалаваць кожнае дзіцятка ў Вроцлаве, ва ўсёй Польшчы і ва ўсім свеце. Асабліва тых, пакінутых, якім не хапае сэрца з боку асяроддзя, у якім жывуць, асабліва тых, якія нежаданыя. У гэты дзень жадаю, каб усе дзеці на свеце цешыліся радасцю і любоўю, якія ім належаць і якіх так жадае для іх саміх Бог.

*Папа звярнуўся да паломнікаў на ангельскай, італьянскай, іспанскай, французскай, рускай, нямецкай мовах, а затым распачаў малітву «Анёл Панскі».*

***«Bądźże pozdrowiona, Hostio żywa, w której Jezus Chrystus Bóstwo ukrywa».***

На заканчэнне гэтай ўрачыстай эўхарыстычнай цэлебры думкамі звяртаемся да Марыі, адгаворваючы *«Анёл Панскі»*. Мы ўсе ведаем гэтую малітву. Ведаем, што нагадвае яна нам сцэну звяставання. *«Анёл Панскі абвясціў Панне Марыі, і пачала Яна ад Духа Святога»*. Момант звяставання з'яўляецца адначасова момантам непавіннага зачацця Сына Божага. Такім чынам, Марыйная малітва, якую мы тройчы адгаворваем на працягу дня, нагадвае нам гэтую вялікую таямніцу Уцелаўлення. *«Вітана будзь, поўная ласкі, Пан з Табою, «благаслаўлёная ты між жанчынамі»* (...) *і благаслаўлёны плод ўлоння Твайго»* (Лк 1, 28.42).

У гэтую нядзелю, у канцы *Statio Orbis*, якая завяршае Эўхарыстычны Кангрэс у Вроцлаве, мы ўсведамляем асаблівую сувязь паміж таямніцай Уцелаўлення і Эўхарыстыяй. *«Слова сталася целам і прабывала паміж намі»*, – паўтараем мы ў малітве *«Анёл Панскі»*. Гэта менавіта цела становіцца Эўхарыстыяй, калі святар прамаўляе над хлебам і віном словы, якія прамовіў Хрыстус у Вячэрніку: *«гэта Цела маё, якое за вас будзе выдана»*. Цела і Кроў. *«Гэта Кроў мая Новага і Вечнага Запавету, якая за вас і за многіх будзе праліта. Чыніце гэта дзеля маёй памяці!»* (пар. 1 Кар 11, 24-25). Гэтую надзвычайную сувязь паміж таямніцай уцелаўлёнага Слова і Эўхарыстыяй цудоўна перадае польская эўхарыстычная песня:

***«Bądźże pozdrowiona, Hostio żywa, w której Jezus Chrystus Bóstwo ukrywa. Witaj, Jezu, Synu Maryi, Tyś***



***jest Bóg prawdziwy w świętej Hostii».***

**2.** Такім чынам, малітва *«Анёл Панскі»* адкрывае нам сваю эўхарыстычную глыбіню. Хрыстус у ахвяры алтара, у выглядзе хлеба і віна дае нам у якасці ежы Цела і Кроў, якія пры дапамозе Духа Святога дала Яму Яго Маці Марыя. Бог Айцец, выбіраючы Марыю за Маці свайго Сына Адзінароднага, асаблівым чынам звязаў яе з Эўхарыстыяй.

Вучы нас, Марыя, усё паўнейшаму разуменню гэтай вялікай таямніцы веры, каб мы заўсёды з радасцю і ўдзячнасцю прымалі запрашэнне Твайго Сына: «бярыце і ешце, гэта – Цела маё. Бярыце і піце, гэта – Кроў мая».

***«Bądźże pozdrowiony, anielski Chlebie, w tym tu sakramencie wielbimy Ciebie. Witaj, Jezu, Synu Maryi, Tyś jest Bóg prawdziwy w świętej Hostii».***

**3.** Няхай таямніца Эўхарыстыі завалодае ўсім вашым жыццём. Няхай з Эўхарыстыі чэрпае моц ваша любоў да Бога і братоў, няхай разгараецца ваша вера і ўмацоўваецца надзея.

Праслаўляючы прысутнасць Хрыста ў Эўхарыстыі, мы таксама дзякуем Богу за дар святарства. Святарства і Эўхарыстыя нераздзельна звязаны паміж сабою. Святар – слуга Эўхарыстыі. Гэта ён у супольнасці Касцёла асаблівым чынам выконвае заклік Хрыста: *«Чыніце гэта дзеля маёй памяці»*. Далучаны да Хрыста-Святара праз сакрамэнт пасвячэння, Яго сілаю здзяйсняе Эўхарыстычную Ахвяру. Няма святарства без Эўхарыстыі. Няма Эўхарыстычнай Ахвяры без святарства. Няхай малітва *«Анёл Панскі»*, якую неўзабаве прачытаем, будзе таксама ўдзячнасцю за дар святарства, а таксама вялікім заклікам да новых пакліканняў. Каб як мага больш маладых людзей пачула заклік «Пана жніва» і за Марыяй велікадушна адказала Богу... Папросім Панну Марыю, каб Яна выпрасіла для Касцёла ў Сына свайго як найболей адданых дарыцеляў Эўхарыстыі.

**Нумар падрыхтаваны паводле інфармацыі з КАІ і матэрыялаў прэс-цэнтра II ЕЭК у Грацы.**



***З 23 да 29 чэрвеня г.г. у аўстрыйскім горадзе Грац адбылася Другая Еўрапейская Экуменічная Асамблея – "Паяднанне як дар Божы і крыніца новага жыцця". У ёй прымалі ўдзел больш за 15 тысяч хрысціян розных веравызнанняў.***

***Кардынал Вылк:***
*Грац будзе імпульсам да далейшай дзейнасці*

Перадусім Грац – гэта месца, дзе людзі абменьваюцца разнастайным вопытам. Наша вялікае жаданне, каб людзі маглі сустрэцца асабіста. Я павінен падкрэсліць, што абмен вопытам і магчымасць асабістага кантакту абуджаюць у людзях надзею на магчымасць паразумення. Важна было і тое, што сустрэча адбывалася на духовай аснове. Кожны дзень распачынаўся супольнымі экуменічнымі малітвамі і біблійнымі разважаннямі. І там усе мы мелі важнае ўсведамленне, што ва ўсіх нашых праблемах мы не адны, што з намі Хрыстус. Вельмі важныя ў гэтай сустрэчы былі два элементы: надзея і праўда, што Бог блізка нас. Калі людзі ад'едуць з Граца з багажом надзеі і перакавання, што паразуменне і паяднанне магчымыя, то мэта гэтай сустрэчы будзе дасягнута.

# ЛІСТ Папы Яна Паўла II да кардынала Ідрыса Кассыдыя, кіраўніка Папскай Рады да спраў Еднасці Хрысціянаў

**1.** Гэтым прывітаннем апостала Паўла я перадаю мае найлепшыя пажаданні Вашай Эмінэнцыі і ўдзельнікам II Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі ў Грацы. Прашу Вашу Эмінэнцыю перадаць, што яднаюся ў малітве з усімі братамі і сёстрамі з хрысціянскіх Касцёлаў, якія прыбылі сюды ў Імя Панскае і ў духу еднасці, каб слухаць Слова Божае, якое заклікае нас да паяднання і супольнасці. Гэта прывітанне святога Паўла да карынцянаў з'яўляецца і Добраю Навінаю і благаславеннем, якое было патрэбна хрысціянам усіх часоў. Яно ўводзіць нас у таямніцу збаўчай любові Бога, які нас так палюбіў, што Сына Свайго ўмілаванага спаслаў. Збаўленне праз Яго Сына змяніла нашы адносіны з Богам не толькі таму, што быў пераможаны грэх, але і таму, што Бог выліў на нас Сваю ласку і ўтварыў новую супольнасць жыцця: *"Бо калі, будучы ворагамі, мы пагадзіліся з Богам праз смерць Сына Яго, то тым больш, пагадзіўшыся, уратуемся ў жыцці Ягоным."* (пар. Рым 5, 10). Хрысціяне жывуць, дзякуючы сіле прабачэння, якую спазналі праз Крыж Хрыстовы ў супольнасці з Айцом.

Тэма II Еўрапейскай Экуменічнай Асамблеі – *"Паяднанне як дар Божы і крыніца новага жыцця"* вельмі адпавядае нашаму часу. Як прыгадвае нам святы Павел, паяднанне – гэта справа Божая (пар.2 Кар 5, 18). Яно слушна лічыцца асноваю гэтага акту касцельнага паяднання альбо таксама грамадскага. Паяднанне з Богам цесна звязана з паяднаннем з іншымі, што наступае пасля яго. Бо сам Пан гаворыць, што і дзейснасць набажэнства залежыць ад паяднання: *"І калі ты прынясеш ахвяру тваю на ахвярнік і там прыпомніш, што брат твой мае штосьці супраць цябе, пакінь там ахвяру перад ахвярнікам і пайдзі перш пагадзіся з братам тваім"* (Мц 5, 23-24).

**2.** Гэта Асамблея праходзіць у той час, калі ў адносінах і ў тэалагічным дыялогу паміж хрысціянамі наступіла інтэнсіўнае развіццё, якое прычынілася да новай атмасферы сярод нас. Я з радасцю назіраю, як асабліва каштоўныя вынікі нашых кантактаў і дыялогу праяўляюцца ў тым, што павялічваецца наш абавязак да поўнай еднасці на аснове ўзрастаючага ўсведамлення, што мы падзяляем шмат элементаў нашай веры (пар. энцыкліка Ut unum sint, 49). Менавіта яснае зразуменне гэтых існуючых ужо элементаў супольнасці, якое ўзнікла ў ранейшым дыялогу, складае базу гэтай асамблеі хрысціян розных веравызнанняў. Горача веру, што ваша сустрэча стане крыніцаю вялікай радасці, калі ўзаемна распазнаеце ў іншых яшчэ больш выразна аблічча Пана, а ў словах іншых адчуеце прагу супольнага вызнавання веры ў Хрыста.

**3.** "Усё ж ад Бога, які праз Езуса Хрыста пагадзіў нас з Сабою, і наказаў нам паслугу паяднання" (пар. 2 Кар 5, 18). Дарагія браты і сёстры, мы пакліканыя, каб стаць на службе паяднання ў розных яе аспектах. Не вельмі выпадае хрысціянам абвяшчаць пасланне

***“Ласка Пана Езуса Хрыста, любоў Божая і дар еднасці ў Духу Святым няхай будуць з усімі вамі”***
*(пар. 2 Кар 13, 13).*

паяднання і заставацца падзеленымі, часта нават варожа настроенымі. Нашай гістарычнай памяці, пазначанай ранамі заблытанага і поўнага насілля мінулага, усё яшчэ патрэбна ачышчэнне.

У аспекце экуменізму Еўропа мае асаблівую адказнасць, бо найбольшыя падзелы ўзніклі ў Еўропе паміж Усходам і Захадам і на самім Захадзе. Аднак разам з тым сярод хрысціян у Еўропе зроблены сур’ёзныя намаганні да паяднання, адсюль таксама пачаліся пошукі поўнай і відавочнай еднасці. Гэта асамблея – сведчанне таго, што ўжо было дасягнута, дзякуючы тэалагічнаму дыялогу, і будзе пасілкам для гэтага духовага руху, вядомага як дыялог любові да бліжняга, і створыць умовы, у якіх тэалагічны дыялог зможа развівацца ясна, свабодна і ва ўзаемным даверы.

**4.** Еўрапейскі кантынент прагне сёння паяднання сваіх народаў і выключэння сацыяльных умоваў, якія выклікаюць падзелы. Пасля паражэння камуністычнага рэжыму паміж Усходам і Захадам намячаюцца пазітыўныя адносіны. Аднак узніклі новыя праблемы і новыя непаразуменні, якія часам выліваюцца ў адкрытыя канфлікты, перапоўненыя насіллем. У гэтай барацьбе асаблівую адказнасць нясуць хрысціяне, бо ўвасабленнем іх духовай спадчыны з’яўляецца дух прабачэння і спакою.

У Еўропе, якая шукае не толькі гаспадарчай, але таксама палітычнай і сацыяльнай еднасці, хрысціяне з Усходу і Захаду могуць унесці супольны, і разам з тым асабісты, уклад на карысць духовага развіцця кантыненту. Нельга нам ніколі забываць альбо таксама не бачыць каштоўнасцяў, якія ўнесла хрысціянства ў гісторыю Еўропы. Як людзі, што ідуць слядамі Хрыста, мы ўсе павінны быць глыбока перакананыя, што супольна нясем адказнасць за павагу да правоў чалавека, за справядлівасць і мір і за ўсё, што належыць да святасці жыцця. Сярод узрастаючай індыферэнтнасці і секулярызацыі мы пакліканыя перш за ўсё выступаць за абарону каштоўнасці жыцця і нашай веры ў змёртвыхпаўстанне, у якім заключана ўсё хрысціянскае пасланне.

Няхай Бог благаславіць працу гэтай Асамблеі, каб наш шлях паяднання ў Імя Панскае быў відавочны. Няхай хрысціяне з Яго дапамогаю змогуць супольна святкаваць пачатак трэцяга тысячагоддзя. Праз нашу супольную веру ў нашага Пана Езуса Хрыста, Збавіцеля свету, будзем прасіць у Яго ласкі, каб мы з новым энтузіязмам і з глыбокім перакананнем падрыхтаваліся даваць супольную ахвяру на карысць еднасці: бо для Бога найлепшы дар – гэта дар міру, братняй згоды і паяднанага люду ў еднасці Айца і Сына і Духа Святога (пар. Ut unum sint, 102).

***Ватыкан, 20 чэрвеня 1997 г.***
***Папа Ян Павел II***

***Брат Роджэр:***
*Якую будучыню мелі б людзі без прабачальнай любові?*

Брат Роджэр падкрэсліў, што “цяпер, на парозе 2000-га году, выразна чуецца заклік да прымірэння не толькі сярод хрысціянаў, але ў самых розных асяроддзях: паміж народамі, у сем'ях і з няверуючымі...” Ці ўсведамляем мы тое, што нашы словы і ідэі здзейсняцца толькі праз наша жыццё? – пытаў ён. Брат Роджэр падкрэсліў, што Касцёл павінен адчыніць дзверы даверу, прабачэння і спачування, без гучных слоў ён павінен быць гасцінны ў радасці і непасрэднасці. Заснавальнік супольнасці Taize заклікаў не забываць, што Хрыстус – гэта першая супольнасць. “Не прыйшоў Ён на зямлю, каб тварыць новую рэлігію, але прызываць да жыцця супольнасць любові”. Брат Роджэр адзначыў, што таксама і ў нашых “часта слабых сэрцах гарыць жаданне еднасці”, і таму мы павінны ўсе ісці дарогаю ад сумненняў да нічым не замглёнага паяднання.

Познім вечарам у касцёле францішканаў у Грацы адбылося ўсяночнае малітоўнае чуванне моладзі з братам Роджарам.

***Мітрапаліт Даніэл:***
*мы баімся пратэстантаў*

Праваслаўны румынскі мітрапаліт Малдавіі і Букавіны Даніэль скептычна ацаніў пазіцыю некаторых пратэстанцкіх Цэркваў. “Мы баімся некаторых пратэстанцкіх Касцёлаў”, – сказаў ён, звяртаючы ўвагу на розніцу паміж пратэстантамі і праваслаўнымі: у той час, калі першыя займаюць пазіцыю “больш гуманістычную”, праваслаўныя скіраваны больш “хрыстацэнтрычна”. Румынскі іерарх выказаў пажаданне, каб усе Цэрквы “займалі ўзважаную пазіцыю”.

## *Алексий II, патриарх Московский и Всея Руси*

(...) Наш общий долг, долг всех христиан Европы – противостать разделениям и несправедливости, свидетельствовать перед властьимущими и перед нашими обществами о возможности и необходимости созидания Европы без барьеров и вражды. (...) Человеческие и национальные, межгосударственные проблемы, возникшие в европейских странах, должны побудить Церкви нашего континента к восприятию служения примирению как неотложного религиозного долга. Вместе с тем, европейским Церквям необходимо всемерно продолжать развитие своего диаконического служения, являющегося нашим долгом пред Богом и перед нуждающимися, страждущими братьями и сестрами. Необходимо настойчиво и неустанно добиваться от государственных и общественных учреждений улучшения качества жизни людей, хотя бы до уровня, достойного человека, а также создания условий для укрепления нравственности, сохранения и развития культуры.

К глубокому сожалению, процессы радикальных изменений в странах Восточной Европы повлияли разобщающим образом на межконфессиональные отношения внутри стран нашего региона и между ними. Во многих странах европейского региона в настоящее время резко ухудшилась экуменическая обстановка. Это обстоятельство возникло в результате наплыва извне миссионеров, осуществляющих массированную прозелитическую деятельность. Их работа направлена на людей, крещённых в православии или связанных с ним историческими корнями. Продолжающееся уже шесть лет вторжение, до предела обострило внутрицерковную обстановку. Понятие "экуменизм" в сознании большинства нашего церковного народа, теперь означает нечто опасное и решительно неприемлемое. В таком положении возникают большие трудности для межцерковной деятельности. Это обстоятельство мы рассматриваем как вызов Церквам Европы и неевропейских стран, с территории которых идёт это вторжение. Но не взирая на все проблемы в Восточном регионе Европы, происходит процесс постепенного сближения Церквей в целях укрепления взаимопонимания между ними и сотрудничества, включающего преодоление прозелитизма, борьбу с духовной агрессией и предотвращение конкуренции в области миссии. Мы призваны сегодня служить примирению не только между странами и народами, но и между нами, учениками Христовыми, дабы мир уверовал и дабы авторитетным было наше миротворческое слово, обращённое к человечеству.

Дорогие во Христе братья и сестры! Да благословит Господь труды Второй Европейской Экуменической Ассамблеи и да увенчается она плодотворным успехом во славу Божию и на благо народов и Церквей нашего континента, а в современном взаимосвязанном мире и на пользу всех его Церквей и народов. Пусть результаты этой Ассамблеи послужат нашим общим достойным вкладам в подготовку к 2000-летию пришествия в мир Господа и Спасителя нашего Иисуса Христа.

Грац. Пачатак II ЕЭК.



## *Протаерэй У.Фёдараў:* *выказванне Алексія II наконт празелітызму невыразнае*

Выкладчык гісторыі Праваслаўнай Царквы ў Духоўнай Акадэміі ў Санкт-Пецярбургу сказаў, што выказванне маскоўскага патрыярха Алексія II на тэму празелітызму вельмі агульнае і не дазваляе ўявіць, што ён разумее пад гэтым паняццем і з якога боку бачыць пагрозу.

Можна толькі здагадвацца, што ён мае на ўвазе найбольшую пагрозу з боку сектаў, а не традыцыйных Цэркваў і Касцёлаў. Праўдападобна, што журналісты няправільна інтэрпрэтавалі тэкст выказвання патрыярха, бо яго словы вельмі агульныя. Ён падкрэсліў, што дзейнасць шматлікіх сектаў на тэрыторыі Расіі мае эканамічную аснову і не мае нічога агульнага з евангелізацый.

Адказваючы на пытанне журналістаў аб апошнім законе аб свабодзе сумлення, прынятым расійскаю Дзяржаўнаю Думаю, протаерэй Фёдараў сказаў, што гэты закон не можа дзейнічаць у такой форме. Ён звярнуў увагу, што ў Расіі жывуць таксама баптысты і лютэране, а каталіцкія касцёлы на расійскіх землях (Ноўгарад, Кіеў) існавалі ад пачаткаў хрысціянізацыі краю. "Закон вельмі несправядлівы і я маю надзею, што ён не будзе падпісаны прэзідэнтам. Гэты дакумент не адпавядае рэальнасці, ідэі новай Еўропы, рэаліям будучага хрысціянства". Протаерэй падкрэсліў, што сам ён выкладае ў Пецярбургскай Духоўнай каталіцкай семінарыі, дзе вядзе курс праваслаўя. "Але ці ж гэта празелітызм? – запытаў ён. – Мы маем шмат праграмаў, над якімі працуем разам з каталікамі і ніколі не задумваліся над гэтым".

## *Кардынал Карл Марыя Марціні, арцыбіскуп Міланскі:*
## *хрысціяне Еўропы павінны несці жывое сведчанне ісціны і свабоды, справядлівасці і міру, каб для ўсіх людзей адкрылася надзея на новы свет*

**2.** (...) Нават сёння, праз некалькі гадоў разбурэння сценаў і распаду двух блокаў, Еўропа зноў рызыкуе стаць раз'яднанай і раздзеленай на буйныя блокі. З аднаго боку, іх характарызуе цвёрдая валюта, адносна ўстойлівая эканамічная сістэма, эфектыўныя структуры абароны і бяспекі і ў значнай ступені ўстойлівыя дэмакратычныя сістэмы. З другога боку можна ўбачыць няўстойлівую валюту, ненадзейныя эканамічныя сістэмы, рызыку ваенных наступаў і жорсткую барацьбу пры адсутнасці сістэмы, здольнай ці схільнай да ўстанаўлення парадку, а таксама настальгію да разнастайных формаў улады. Пры такім збегу абставінаў няма сумнення ў тым, што некаторыя жыццёвыя прывычкі, выкліканыя ўрбанізацыяй, раздробленасцю і шматслойнасцю грамадства, а таксама пераважнай эканамічнай дынамікай, іншы раз узмоцненаю глабалізацыяй, падтрымліваюць і ўзрошчваюць сілы антысалідарнасці, якія часта маюць глыбокія духоўныя і маральныя карані.

Усё гэта прадстаўляе аблічча Еўропы, якая патрабуе прымірэння і прагне яго. Асобныя хрысціяне, абшчыны, групоўкі, рухі і нават цэлыя Цэрквы звяртаюць сур'ёзную ўвагу на праблемы жыцця кантынента. Яны падкрэсліваюць надзённую неабходнасць прымірэння. Прымірэнне сапраўды з'яўляецца працаю для ўсяго народа Божага ў Еўропе!

**3.** Вось што ляжыць у аснове (...)гэтай Асамблеі... Мы, хрысціяне Еўропы, хочам несці жывое сведчанне ісціны і свабоды, справядлівасці і міру, каб для ўсіх людзей адкрылася надзея на новы свет. Мы хочам знайсці выразную натхняльную і каардынуючую ідэю і цвёрдае ядро, якое стане сутнасцю глабальнага, а не водгукам, прымеркаваным да пэўнай падзеі дзеля неабходнасці моманту. Гэтая ідэя і гэтая сіла могуць зыходзіць толькі ад Пана Езуса і прысутнасці Яго Духа.

**5.** (...) Прымірэння нельга адчуць у сапраўднай паўнаце і даставерна засведчыць, бо не ўсе нашыя Цэрквы прадстаюць перад Крыжам Пана нашага Езуса Хрыста, каб пакорліва паспавядацца з граху, з якога нарадзіўся ганебны факт іх раздзеленасці, якая існуе і зараз; каб выпрошваць у нястомнай малітве ласкі Божай міласці і дар адзінства, і з рашучасцю і ў радаснай надзеі прымаць экуменічныя абавязацельствы, нягледзячы на ўсю цяжкасць працы, звязанай з гэтым, каб ісці шляхам міру.

Экуменічны шлях, які ляжыць перад намі, бясспрэчна, нялёгкі і няпросты. Але ён непазбежны, калі мы хочам заставацца вернымі Слову Хрыста, які заклікае нас да адзінства, і вернымі дзеянню Духа Святога, які заклікае нас да царкоўных адносін на ўзор Тройцы. Як сказаў Папа Ян Павел II у Вроцлаве 31 мая, "Еўропа адчувае патрэбу ў тым, каб усе мы ў вернасці аб'ядналіся вакол Крыжа і Евангелля" (3), і далей: "Нашы Цэрквы і царкоўныя супольнасці маюць патрэбу прымірэння. Ці можам мы быць поўнасцю паяднанымі з Хрыстом, не будучы паяднанымі паміж сабою, не прабачыўшы адзін аднаму?" (4). З гэтага вынікае, што нашы Цэрквы павінны заўсёды адчуваць сябе "закліканымі імкнуцца да больш глыбокага адзінства, не проста ўнутранага, але відавочнага, да адзінства, якое становіцца знакам для свету, каб мір пазнаў і паверыў. Мы не можам збочыць з экуменічнага шляху... Мы павінны рабіць усё магчымае, каб зноў вярнуць паўнату адносін. Спыняцца на гэтым шляху мы не можам" (3,5). Мы павінны рухацца наперад з верою. Мы не можам быць задаволенымі толькі з узаемнай памяркоўнасцю альбо ўзаемным прыняццем, бо Хрыстус хоча ад нас агульнага сведчання! Гэтае сведчанне, якому наша Асамблея павінна спрыяць і якое яна павінна падтрымліваць. (...)

Мы не можам заставацца раздзеленымі! Мы павінны ісці разам, паколькі ў гэтым воля Пана нашага! Як сказаў два гады таму Свяцейшы Варфаламей I, Усяленскі Патрыярх Канстанцінопальскі: "Давайце крочыць разам і абвяшчаць прымірэнне і адзінства! Нам не трэба баяцца дзікіх звяроў, бо ў нас ёсць наш Суцяшальнік, Дух Святы, Дух Ісціны, Скарб Благаславёных і Дарыцель Жыцця" (Рым, Базыліка св.Пятра, 29 чэрвеня 1995г.).


Грац. У часе супольнай малітвы.



# SYNOD
## ARCHIDIECEZJI MIŃSKO-MOHYLEWSKIEJ I DIECEZJI PIŃSKIEJ

### KOMUNIKAT
**z posiedzenia Komisji Koordynacyjnej Synodu**

Dnia 19.06.1997 r. w Nieświeżu odbyło się dwunaste posiedzenie Komisji Koordynacyjnej Synodu pod przewodnictwem J.Em. Ks. Kazimierza Kardynała Świątka.

Posiedzenie rozpoczęto po Mszy św. koncelebrowanej.

**1.** Omówiono znaczenie dla prac Synodu przesłania Papieża Jana Pawła II skierowanego do Kościoła i ludów Europy podczas pobytu w Polsce w dniach od 31 maja do 10 czerwca br.

**2.** Zapoznano się z korespondencję synodalną oraz ze stanem przygotowań edytorskich "Materiałów synodalnych" zeszyt nr 4.

**3.** Ustosunkowano się do planów roboczych niektórych tematów synodalnych oraz do propozycji wydrukowania przygotowanego tłumaczenia na język białoruski książki Mariny Ombach, W poszukiwaniu prawdziwej miłości. Przysposobienie do życia w rodzinie.

**4.** Powołano na Kustosza Wystawy synodalnej ks. Władysława Zawalniuka.

Następne posiedzenie odbędzie się dnia 31 lipca br. w Baranowiczach.

Obrady zakończono modlitwą Roku jubileuszowego.

***ks. Stanisław Pawlina fDP***

### КАМУНІКАТ
**пасяджэння Каардынацыйнай Камісіі Сіноду**

19 чэрвеня 1997г. у Нясвіжы адбылося дванаццатае пасяджэнне Каардынацыйнай Камісіі Сіноду пад кіраўніцтвам Яго Эмінэнцыі ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка, якому папярэднічала канцэлебраваная Святая Імша.

**1.** Абмяркоўвалася, якое значэнне для працаў Сіноду мае пасланне Папы Яна Паўла II, скіраванае да Касцёла і да народаў Еўропы падчас яго пілігрымкі ў Польшчу з 31 мая па 10 чэрвеня г.г.

**2.** Азнаёміліся з сінадальнай карэспандэнцыяй, а таксама са станам падрыхтоўкі да друку "Сінадальных матэрыялаў" (сшытак №4).

**3.** Абмеркаванне некаторых рабочых планаў пэўных сінадальных тэмаў, а таксама прапановы выдання падрыхтаванага перакладу на беларускую мову кнігі Марыны Омбах "У пошуку сапраўднай любові. Падрыхтоўка да жыцця ў сям'і".

**4.** Адказным за сінадальную выставу абраны кс.Уладзіслаў Завальнюк.

Наступнае пасяджэнне адбудзецца 31 ліпеня г.г. у Баранавічах.

Пасяджэнне закончылася малітвай юбілейнага Года.

***кс.Станіслаў Паўліна fDP***

### Напрыканцы ліпеня:

**Дні духоўных сустрэч:**

**22 ліпеня** – г.Мінск (Катэдра НМП) – для святароў Мінскай вобласці
**23 ліпеня** – Браслаў – для святароў Віцебскай вобласці

**26 ліпеня** – кансэкрацыя касцёла ў Дзяржынску.
**27 ліпеня** – кансэкрацыя касцёла і Сакрамэнт бежмавання ў Варапаеве.

## V Міжнародны фестываль сакральнай музыкі

# "Магутны Божа"

У Магілёве закончыўся V Міжнародны фестываль сакральнай музыкі "Магутны Божа", які працягваўся тры дні. У гэтай экуменічнай імпрэзе ўдзельнічалі калектывы і салісты з Беларусі, Грузіі, Польшчы, Расіі і Украіны. Прыбылі таксама госці з Францыі, Германіі, Вялікабрытаніі і нават з далёкіх афрыканскіх краінаў.

Як сказаў у часе ўрачыстай Святой Імшы, якая адбывалася ў магілёўскай катэдры св.Станіслава біскупа, нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, фестываль у Магілёве служыць справе евангелізацыі і спрыяе збліжэнню паміж народамі. Знакаміты знаўца музыкі ўсходніх славянаў прафесар Гай дэ Пікарда, які жыве ў Лондане, у сваіх інтэрв'ю для прэсы падкрэсліваў значэнне гэтай імпрэзы на карысць пераадолення моднай сёння на Захадзе тэндэнцыі да ізалявання Беларусі. Таксама і Віктар Роўда, вядомы беларускі дырыжор, гаварыў пра неабходнасць сёння пошукаў збліжэння паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў і рэлігій, пра чаканне на сустрэчу Папы з Маскоўскім патрыярхам.

Як і ў мінулыя гады, на фестываль прыехала дачка кампазітара гімна "Магутны Божа" Мікалая Равенскага.

Сёлета ўпершыню ўдзельнікі фестывалю мелі магчымасць выступіць і ў праваслаўнай святыні. З дазволу мясцовага ўладыкі Максіма ў часе нядзельнай Літургіі ў катэдральным саборы спяваў знакаміты мужчынскі хор з Грузіі "Баграці", які выклікаў на фестывале ў мінулым годзе сапраўдную сенсацыю. Гэта хочацца падкрэсліць, асабліва з увагі на тое, што сёлета музычныя калектывы не мелі магчымасці выступаць у канцэртных залах горада. Фестываль хоць і "юбілейны" (бо праводзіцца пяты раз), на гэты раз быў куды сціплейшы. Амаль да апошняй хвіліны невядома было, ці будзе ён выніковым. Не падвялі толькі яго гарачыя прыхільнікі.

Амаль усе імпрэзы адбываліся ў цудоўна адрэстаўраванай баракавай архікатэдры, адным з нямногіх гістарычных аб'ектаў гэтага горада, які прэтэндаваў калісьці на ролю сталіцы Беларусі. Як і ранейшыя, арганізоўваў гэты фестываль і апекаваўся ім пробашч архікатэдральнай парафіі кс.Уладзіслаў Блін. Дапамагалі яму ў арганізацыі гэтага фестывалю ксяндзы-вікарыі, сёстры законныя, а таксама клерыкі з семінарый у Гродне, Санкт-Пецярбургу і іх калегі з Польшчы – з Элка, Пэрпліна, Тарнова, Драгічына, Седльцаў і Влоцлаўка.

Рыма-каталіцкая архікатэдра ў Магілёве з'яўляецца месцам асаблівага культу Маці Божай Фацімскай, 80-гадовы юбілей аб'яўленняў якой адзначаецца сёлета. 13 ліпеня, у гадавіну аб'яўлення, адбылася ўрачыстая працэсія з фігуркаю Маці Божай Фацімскай вакол катэдры, у якой удзельнічалі госці фестывалю.

*Здзіслаў Шуба*



Мужчынскі хор "Унія"

Мінскі абласны камерны хор "Sonorus"





***2 ліпеня**, як і кожны год, Маці Божая Будслаўская паклікала вернікаў-католікаў да сябе. І яны прыйшлі – многія пешымі пілігрымкамі, многія прыехалі на аўтобусах, цягніках, самаходах. Яны прыбылі ў Будслаў, каб пакланіцца цудоўнаму абразу Маці Божай Будслаўскай, папрасіць у яе літасці і заступніцтва, падзякаваць за яе ласку і дабрыню. Шмат вернікаў сабрала апоўначы традыцыйная Святая Імша, пасля якой адбылася вельмі прыгожая працэсія са свечкамі. Праз усю ноч у Будслаўскай малой базыліцы гучалі марыйныя песьні, малітвы да Маці Божай. А ўдзень, 2 ліпеня, адбылася Святая Імша, якую справаваў нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, яму асыставалі святары з розных куткоў Беларусі. Затым адбылася ўрачыстая эўхарыстычная працэсія, у якой разам са святарамі, законнымі братамі і сёстрамі прымалі ўдзел тысячы вернікаў. Усе яны засведчылі сваю вернасць Пану Богу, Маці Божай і Каталіцкаму Касцёлу.*

***Н.К.***

**5 ліпеня ў Тракелях** адбылася ўрачыстасць Маці Божай Наведзінаў – апякункі Гродзенскай дыяцэзіі, – на якую сабралася больш за 15 тысяч пілігрымаў. Было шмат пешых пілігрымак, у тым ліку 500 пілігрымаў з Іўя.

На ўрачыстасці прысутнічала 30 святароў, законныя сёстры і клерыкі, госці з Польшчы. Адбылася Святая Імша, якую цэлебраваў ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч. У гэтым годзе на ахвяраванні былых парафіянаў, якія цяпер жывуць за мяжой, быў пабудаваны новы алтар-капліца. Увечары а 9-й гадзіне распачалося начное чуванне.



ПАЛОМНІЦТВА
ФІГУРЫ
МАЦІ БОЖАЙ ФАЦІМСКАЙ

**Жнівень – 1997**
**Гродзенская дыяцэзія**

| | |
|---|---|
| 31.07-1.08 | Ружанка |
| 1-2 | Мікалеўшчына |
| 2-3 | Масты |
| 3-4 | Масты |
| 4-5 | Пяскі |
| 5-6 | Струбніца |
| 6-7 | Рагожніца |
| 7-8 | Лунна |
| 8-9 | Эйсманты Вял. |
| 9-10 | Бераставіца Мал. |
| 10-11 | Заневічы |
| 11-12 | Макараўцы |
| 12-13 | Бераставіца Вял. |
| 13-14 | Свіслач |
| 14-15 | Поразава |
| 15-16 | Падароск |
| 16-17 | Ізабелін |
| 17-18 | Ваўкавыск |
| 18-19 | Ваўкавыск |
| 19-20 | Мсцібаў |
| 20-21 | Шыдловічы |
| 21-22 | Гнезна |
| 22-23 | Вярэйкі |
| 23-24 | Рэпля |
| 24-25 | Волпа |
| 25-26 | Рось |
| 26-27 | Краменіца |
| 27-28 | Зельва |
| 28-29 | Дарэчын |
| 29-30 | Луконіца |
| 30-31 | Слонім (Св.Андрэя) |
| 31.08-1.09 | Селявічы |

Інфармацыйны бюлетэнь "**Каталіцкія навіны**" № 7 (23) 1997
Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла
Рэдакцыйная Рада
Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Рэгістрацыйны № 686.
Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 17.07.97. Папера афсетная №1, фармат 62 1/8.
Друк афсетны. Друк. арк. 1. Наклад 4000 экз. Зак. 27.
Адрас рэдакцыі: 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, факс: (0172) 26-90-92.
Катэдральны касцёл Найсвяцейшай Марыі Панны.
Надрукавана ПП В.Ю.А. Пасв. №836, вул.Чкалава, 14.